ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 37 (2616)
ПЯТНІЦА
15
верасня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# Максіму Танку — 60



Фота Ул. КРУКА.

Яго нарадзіла зямля Беларусі, каб потым ён закахаўся ў яе, разгледзеў на ёй кожную травінку, кожнае дрэўца, убачыў, як расцвітаюць верасы і наліваецца колас, як «выплывае месяц на сіні начлег», пачуў звон апаўшай расы і магутныя ўсплескі нарачанскіх хваль. «Смыком серабраным на струнах зары» стварае ён гімны роднай зямлі, песні якой падслухаў і палюбіў яшчэ ў дзяцінстве. А палюбіўшы, зразумеў беды і радасці гэтай зямлі і абраў адзіны для сябе шлях—барацьбу.

З той пары ні на імгненне не ведае спакою душа паэта. Ён змагаецца з пілсудчыкамі і фашысцкімі акупантамі. Пасля вайны цалкам аддае сябе грамадскай дзейнасці, справай і словам служыць росквіту Краіны Саветаў.

Цяжка паверыць, што Максіму Танку—шэсцьдзесят, так молада і звонка гучаць яго вершы. Але багацце думак, смеласць і раскаванасць формы сведчаць пра тое, што да пісьменніка прыйшла тая сапраўдная сталасць, якая робіць паэта Паэтам.

Доўгіх гадоў—яркіх, плённых і, зразумела, шчаслівых—жадаем юбіляру.

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею паэта, чытайце на 8—9 стар.

## СУСТРЭЧЫ ПРЫНОСЯЦЬ РАДАСЦЬ

**Блізіцца да завяршэння работа рэспубліканскага семінара творчай моладзі ў Светлагорску. Як сведчаць фотаздымкі І. Стэца, сустрэчы прыносяць радасць, зацікаўленасць у рабоце адзін аднаго, шчырасць. На першым здымку — кампазітар Людміла Шлег, мастак Аляксей Пятрухна, музыказнаўца Таісія Шчарбакова. На другім— мастакі Дзмітрый Папоў, Жана Шыдлоўская, Аляксандр Зіменка, Сяргей Волкаў, Леў Талбузін.**

**Больш падрабязна мы раскажам пра семінар у адным з бліжэйшых нумароў.**





## УРАЧЫСТАСЦІ Ў «ДЗЯРЖЫНАВЕ»

Верасень прыкметна пазалаціў лясы і дубровы Міншчыны. Паўнаўладнай гаспадыняй прыйшла восень і на палі Стаўбцоўскага раёна. Цёплым сонечным днём тут, на сядзібе «Дзяржынава» — радзіме выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага, адбыўся шматлюдны мітынг, прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння баявога саратніка Уладзіміра Ільіча Леніна.

Мітынг адкрыў старшыня выканкома Стаўбцоўскага раённага Савета дэпутатаў працоўных І. Плахатнюк. На мітынгу выступілі: старшыня мясцовага калгаса імя Дзяржынскага Л. Зык, пляменніца Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага — Ядзвіга Генрыхаўна Дзяржынская, дырэктар Івянецкага музея Дзяржынскага М. Карнееў, пісьменнік М. Зубаў — аўтар кнігі «Ф. Э. Дзяржынскі. Біяграфія» і іншыя.

Пад гукі маршу ўдзельнікі мітынгу накіраваліся да бюста Ф. Э. Дзяржынскага.

Да падножжа бюста піянеры ўсклалі жывыя кветкі. Затым адбылося адкрыццё філіяла музея Ф. Э. Дзяржынскага.

**Л. К.**

## ГОСЦІ З ТУРКМЕНІІ

**Нядаўна ў вёсцы Дукора калгаса імя 16-ці партызан адбыўся канцэрт артыстаў Туркменскай дзяржаўнай філармоніі. Перад хлебаробамі выступілі ўдзельнікі ансамбля «Мелодыя», якія выканалі песні «Караван», «Не плач аб каханні», «Аб чым пяе салавей» і інш. Народная артыстка рэспублікі М. Фараджава выканала беларускія народныя песні «Чабарок», «Хлопец пашаньку пахае» і туркменскія народныя песні «Масква», «Наша сяло», «Мацярынскі погляд». Т. Анадурдыянаўны пазнаёміла гледачоў з афганістанскімі, туркменскімі народнымі танцамі.**

**Гледачы горача падзякавалі гасцям з сонечнай Туркменіі за цудоўна праведзены вечар, пажадалі новых творчых поспехаў.**

**А. ПІСАРЧЫК.**

## ЭМБЛЕМА МАГАЗІНА — «ДРЭВА ВЕДАЎ»

Зноў расчыніліся дзверы Цэнтральнай кнігарні сталіцы. Доўгі час то адзін, то другі аддзел быў зачынены: магазін рамантаваўся, перабудоўваўся.

Новы інтэр'ер кнігарні нагадвае бібліятэку — добраўпарадкаваную, з паліраванымі панэлямі. Адзінае ўпрыгожанне яго — кнігі. Знік прылавак. Тысячы тамоў — на віду, так сказаць, «тварам» да пакупніка — бяры, гартай, можна прагледзець малюнкі, можна прачытаць старонку-другую.

Больш за ўсё пакупнікоў у аддзеле тэхнічнай літаратуры. Толькі чуваць:

— Лізавета Пятроўна, матаналіза не было? А даведніка па матэматыцы?

Я таксама звяртаюся да яе. Гэта — старшы прадавец аддзела Л. П. Капітанчук:

— Што змянілася пасля перабудовы магазіна?

— Многае. Раней наш аддзел прадаваў кніжак на 5—7 тысяч рублёў у месяц, зараз прадаем на 12—13 тысяч.

У Раісы Фамінічны Голуб з аддзела выяўленчага мастацтва таксама шмат «знаёмых».

— Не дзіва,—гаворыць Раіса Фамінічна, — за 20 год работы ў магазіне «вывучыла», хто шукае кнігу для работы, хто для калекцыі, а хто проста для інтэр'ера.

«Свой» пакупнік і ў С. І. Трафімавай з аддзела палітычнай, і ў Р. М. Меднік — з мастацкай літаратуры.

У новых аддзелах — дзіцячай літаратуры, беларускай, а таксама ў аддзеле літаратуры, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР, працуюць маладыя прадаўцы, якія нядаўна скончылі прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Ля апошняга — зараз асабліва ажыўлена. Тут увесь час пытаюцца:

— Зборнік «Хараство нашай Радзімы» паступіў? А «Гербы і сцягі саюзных рэспублік»?

— Кнігу пра Мінск, калі ласка.

— Што-небудзь пра Беларусь!..

Толькі літаратуры пра нашу рэспубліку за мінулы месяц магазін прадаў на 4 тысячы рублёў, Лічба небывалая! Некаторыя выданні разыходзяцца за адзін-два дні. Гэтаму ў многім спрыяе прапаганда кнігі. Па радыё тут вам раскажуць пра выданні, што нядаўна паступілі ў магазін, коратка раскажуць, аб чым новая кніга, для каго прызначаецца.

Радыёапаратура ўстаноўлена ў кабінеце дырэктара Мікалая Васільевіча Дуброўскага. Зараз там ідзе «лятучка». Вырашаецца, каго, з чым паслаць на прадпрыемствы, па якіх у час «Тыдня літаратур народаў СССР» будзе наладжаны кніжны гандаль.

— Наш магазін павінен стаць узорна-паказальным магазінам па прапагандзе і продажу кнігі,— гаворыць Мікалай Васільевіч. — Пасля рамонту плошчу залы павялічылі ўдвая, а аддзел выяўленчага мастацтва — амаль у тры разы. Ёсць стол даведак. Цяпер пра тое, якая кніжка паступіла ў магазін, можна даведацца па тэлефоне. Кнігі са склада дастаўляюцца пад'ёмальнікамі. Цяпер работнікам магазіна не трэба цягаць цяжкія пакункі.

І яшчэ адно новаўвядзенне — пакуль толькі на кардоне: магутнае дрэва і рукі, што цягнуцца да сонца, да святла. Потым, выкананы з каляровага фаянсу, велічынёй у 1,5 метра, рэльеф, што сімвалізуе вечна жывое дрэва ведаў, будзе размешчаны пры ўваходзе ў гандлёвую залу магазіна. Дакладна такі ж знак будзе стаяць на кожнай кніжцы, купленай у Цэнтральным кніжным магазіне сталіцы.

**Р. БАКУНОВІЧ.**



50 год утварэння СССР

# ПРЫВІТАННЕ ВАМ ГОСЦІ, БАЯНЫ НЕАСЯЖНА ВЯЛІКАЙ ЗЯМЛІ!

«Сардэчна запрашаем, дарагія сябры!»—гэтыя гарачыя словы прывітання шматразова гучалі 11 верасня ля «гарадскіх варот» Мінска—і на пероне чыгуначнага вакзала, і ў аэрапорце. Тут працоўныя сталіцы Беларусі, шматлікія прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі сустракалі сваіх жаданых і дарагіх гасцей — вядомых пісьменнікаў Расіі, Украіны і іншых брацкіх рэспублік Краіны Саветаў.

Пасланцы нацыянальных савецкіх літаратур прыехалі ў Мінск, у гасцінную Беларусь для ўдзелу ў вялікім свяце брацтва і творчасці— Тыдні літаратур народаў Савецкага Саюза, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР.

Упершыню праводзіцца ў БССР такі тыдзень. У яго дні пісьменнікі і паэты іншых рэспублік, кнігі якіх добра знаёмы чытачам, разам са сваімі беларускімі сябрамі — сабратамі па пяру сустрэнуцца з працоўнымі ўсіх абласцей рэспублікі. Радыё і блакітныя экраны тэлевізараў прывядуць жаданых гасцей у кожны наш дом... Савецкая літаратура —магутны сродак збліжэння, узаемапранікнення і брацкага ўзаемаразумення народаў. Яна мацнела і развівалася разам з Савецкім Саюзам—дзецішчам мудрай нацыянальнай палітыкі партыі Леніна. Акружаная партыйнымі клопатамі шматнацыянальная савецкая літаратура нясе камуністычныя ідэалы, ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму і гуманізму ў розумы і сэрцы, натхняючы і выхоўваючы магутнай зброяй таленавітага слова пакаленні савецкіх людзей.

Вось чаму столькі кветак было паднесена, столькі сардэчных прывітанняў адрасавана ў гэты вераснёўскі дзень гасцям Беларусі.

Як вялікае свята брацтва рэспублік Краіны Саветаў сустракае Беларусь Тыдзень літаратур народаў СССР.

На вакзале і ў аэрапорце гасцей цёпла віталі Максім Танк, Іван Шамякін, Алесь Савіцкі, Еўдакія Лось, Анатоль Грачанікаў, Анатоль Кудравец.

На свята дружбы, свята літаратуры ў Беларусь прыехалі многія пісьменнікі. У саставе іх дэлегацый майстры ўсіх жанраў вялікай савецкай літаратуры — пісьменнікі Расійскай Федэрацыі, Украіны, Узбекістана, Казахстана, Грузіі, Азербайджана, Літвы, Малдавіі, Латвіі, Кіргізіі, Таджыкістана, Арменіі, Туркменіі, Эстоніі.

Сярод гасцей працоўных нашай рэспублікі — Віталій Закруткін, Віктар Бокаў, Давід Кугульцінаў, Гілямдар Рамазанаў, Уладзімір



Ля помніка вялікаму песняру.



Сустрэчы пачаліся ў аэрапорце. Злева направа: В. Рамазанаў, І. Шамякін, В. Закруткін, Д. Кугульцінаў, Р. Каваленка, Е. Лось, В. Бокаў, Максім Танк, А. Савіцкі і Хабібула Файзуло.

Жукаў, Барлас Камалаў, Мікалай Шундзік, Уладзімір Дзягілеў, Аляксей Палтарацкі, Наталля Кашчук, Іван Сварнык, Гулям Шухрат, Талкун Імамхаджаеў, Кайрат Жумагаліеў, Хута Берулава, Нарыман Гасан-задэ, Халіда Гасілава, Акрам Айлісл, Альфонсас Малдоніс, Уладас Даўтартас, Павел Старасцін, Уладзімір Башляга, Еранім Стулпан, Тален Шамшыеў, Хабібула Файзуло, Мамур Саідалі, Абдужабор Кахоры, Варткес Бабаян, Уладзімір Аруцюнян, Алаберды Хаідаў, Какалы Бердыеў, Юрысон Хельві, Олеу Йыгі.

Пяцьдзесят гадоў, якія мінулі з часу ўтварэння Саюза ССР, былі гадамі ўзаемнага ўплыву і ўзбагачэння літаратур брацкіх рэспублік, стварэння адзінай сацыялістычнай культуры. Дружба народаў шматнацыянальнай Краіны Саветаў, нарадзіла і дружбу літаратур. Красамоўнае таму сведчанне—і цяперашняе свята.

Аб гэтым гаварылася на прэс-канферэнцыі з удзелам гасцей, якая адбылася 11 верасня ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Яе адкрыў старшыня праўлення пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі Максім Танк. Першы намеснік старшыні праўлення СП БССР Іван Шамякін расказаў аб развіцці беларускай савецкай літаратуры, аб тым, як яна, дзякуючы ўзаемнаму ўплыву і ўзбагачэнню нацыянальных сацыялістычных літаратур, атрымала вялікую магчымасць «з цэлым светам гутарку весці». Была выказана ўдзячнасць «флагману літаратурнай эскадры»—вялікай рускай літаратуры, якая паказвае высокія ўзоры творчасці. Многія творы рускіх пісьменнікаў паўстаюць перад чытачамі ўсяго свету як вышэйшыя дасягненні літаратуры сацыялістычнага рэалізму, якія ярка працягваюць і развіваюць традыцыі класікі ў глыбока сучасным, сапраўды наватарскім мастацтве. Яны заваёўваюць розумы і сэрцы сваім філасофскім зместам, высакароднымі ідэямі рэвалюцыйнага гуманізму. Іх дзейснасць памнажаецца высокім майстэрствам мастака.

Іван Шамякін азнаёміў гасцей, а таксама прадстаўнікоў прэсы, тэлебачання і радыё з велізарнай праграмай тыдня.

На прэс-канферэнцыі выступіў кіраўнік пісьменніцкай дэлегацыі РСФСР Віталій Закруткін. Ён падзякаваў грамадскасці рэспублікі за арганізацыю гэтага свята брацкіх літаратур і за прадастаўленую магчымасць прыняць у ім удзел.

# ХВАЛЮЮЧЫЯ СУСТРЭЧЫ

## НА РАДЗІМЕ КУПАЛЫ

Пісьменнікі Масквы, Ленінграда, усіх брацкіх рэспублік краіны трымалі шлях у маленькую вёску Вязынка, назва якой сёння вядома ўсім паклоннікам паэзіі.

Тут, у бядняцкай хаце на беразе ціхай сажалкі, 90 гадоў назад нарадзіўся Янка Купала. Народны паэт Беларусі Янка Купала па праву стаў паэтам усенародным, знаёмым мільёнам чытачоў неабсяжнай Расіі і Украіны, Узбекістана, Грузіі — усіх рэспублік і ўсіх народаў вялікай Краіны Саветаў.

Такая зайздросная доля сапраўднай, вялікай літаратуры — зближаць народы, рабіць іх сябрамі. Такая зайздросная доля вялікага майстра слова, які непадзельна прысвяціў ліру народу свайму, партыі Леніна, якая дала мільёнам працаўнікоў шчасце свабоды, святло ведаў, радасць творчасці. Імя такога мастака, яго творы становяцца здабыткам і гордасцю ўсёй краіны — вялікага Савецкага Саюза. Іменна такім мастаком слова быў Янка Купала.

Вязынка яшчэ памятае нядаўнія ўрачыстасці купалаўскіх дзён, калі разам з тысячамі землякоў паэта адзначыць яго 90-годдзе прыехалі сюды пасланцы брацкіх літаратур усіх рэспублік краіны.

У гэту вераснёўскую раніцу пісьменнікі з усіх рэспублік СССР аглядалі Дом-музей, знаёміліся з мемарыяльным комплексам, створаным у Вязынцы народнай любоўю. Ля помніка Купалы зачырванелі кветкі — дар сыноўскай удзячнасці гасцей чалавеку, што высока ўзняў аўтарытэт маладой беларускай савецкай літаратуры, ля вытокаў якой стаяў ён разам са сваім сябрам і саратнікам Якубам Коласам.

## ЖМЕНЯ ХАТЫНСКАЙ ЗЯМЛІ

Поўныя дум, народжаных сустрэчай з Вязынкай, пад'ехалі ўдзельнікі Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі да аднаго з самых трагічных месц на шматпакутнай зямлі Беларусі — да Хатыні.

Доўга стаялі яны ля трох бяроз — сімвалаў, якія нібы аплакваюць чацвёртую сваю сястру, слухаючы несціханы трывожны бой хатынскіх званоў, што напамінае памяці і абавязку людскому зрабіць усё, каб не паўтарылася трагедыя Хатыні, трагедыя тысяч рускіх, украінскіх, беларускіх гарадоў і вёсак, спапялёных агнём вайны.

Пісьменнік з Ленінграда Уладзімір Дзягілеў, паэт з Казахстана Кайрат Жумагаліеў, прадстаўнік пісьменніцкай арганізацыі Кіргізіі Талем Шамшыеў, украінскі пісьменнік Аляксей Палтарацкі і іншыя ўдзельнікі тыдня гаварылі, што аддадуць усе свае сілы далейшаму ўмацаванню адзінства і брацтва савецкіх народаў, справе міру ва ўсім свеце.

Няхай трагедыя Хатыні ніколі не паўторыцца!

Пісьменнікі і паэты брацкіх рэспублік узялі з сабой па жмені хатынскай зямлі. Гэта зямля — напамінанне аб вечным пісьменніцкім абавязку перад народам, аб адказнасці літаратара-патрыёта за лёс Радзімы.

## НА КУРГАНЕ СЛАВЫ

Зноў мільгаюць у вокнах убраныя палі, лясы, радасныя, даўно адбудаваныя нанава беларускія вёскі. І вось наперадзе, на 21-м кіламетры шашы Масква — Мінск, накіраваўшы ў блакіт неба чатыры штыкі-абеліскі, узнік Курган Славы.

Тут летам 1944 года замкнулі кальцо акружэння вакол буйной групоўкі фашысцкіх войск савецкія воіны, якім актыўна садзейнічалі беларускія партызаны. Тут сыны вялікага рускага народа і ўсіх народаў краіны, ажыццяўляючы аперацыю «Баграціён», выйгралі адну з рашаючых бітваў, што прынесла свабоду беларускай зямлі. Тут кожная пядзя зямлі паліта крывёй герояў, якая навечна змацавала баявое братэрства савецкіх народаў.

Пісьменнікі і паэты — удзельнікі Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі — падняліся на Курган Славы, які захоўвае гераічную зямлю Масквы і Ленінграда, Адэсы і Севастопаля, Кіева, Брэста, Новарасійска і соцень іншых месц, дзе грымелі самыя суровыя баі.

То адзін, то другі ўдзельнік тыдня паспешна ўпісвае ў блакнот народжаныя гэтай паездкай радкі і думкі. Нямала даў кожнаму з іх, а значыць і кожнаму з іх чытачоў, гэты дзень падарожжа па памятных мясцінах Беларусі.

●

Вечарам пяццю групамі ўдзельнікі тыдня накіраваліся на новыя сустрэчы з працаўнікамі сталіцы Беларусі. Тысячы мінчан цёпла віталі іх у палацах культуры трактарнага завода і камвольнага камбіната, у клубе радыёзавода, у актавай зале педінстытута імя А. М. Горкага і лекцыйнай зале Дома палітычнай асветы Мінскага абкома КПБ.

БЕЛТА.



Вязынка, радзіма Купалы...



Нашы госці ў Хатыні.

50 год утварэння СССР

# СВЯТА ДРУЖБЫ І БРАЦТВА

12 ВЕРАСНЯ ў Мінску стартавала вялікае свята дружбы і брацтва. Пачаўся Тыдзень літаратур народаў СССР, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза.

«Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо», — пісаў выдатны савецкі паэт Уладзімір Маякоўскі. Ажыццявілася мара паэта-трыбуна. Творчасць пісьменнікаў народаў СССР, зліваючыся ў жыватворны паток адзінай савецкай літаратуры, стала выпрабаванай і надзейнай зброяй партыі ў гістарычнай справе будаўніцтва камунізму, выхавання чалавека новага грамадства.

Сёння нашы людзі не ўяўляюць жыцця без кнігі, без штодзённай сустрэчы з творамі майстроў слова свайго народа і іншых народаў СССР. Лепшыя раманы, аповесці, паэмы, вершы, п'есы, нарысы, народжаныя на мове любога народа краіны, хутка становяцца здабыткам усіх савецкіх людзей.

Яркім таму прыкладам можа служыць і наша рэспубліка. Толькі за 25 пасляваенных гадоў у Беларусі перакладзены на родную мову з моў народаў СССР 2.759 кніг агульным тыражом 96,3 мільёна экземпляраў!

У той жа час лепшыя творы беларускіх аўтараў сотні разоў выдаваліся ў РСФСР, на Украіне і ў іншых рэспубліках краіны.

Гэты працэс узаемаўзбагачае нацыянальныя савецкія літаратуры, а галоўнае — штодзённа зближае савецкіх людзей розных нацыянальнасцей, дапамагае ім, нягледзячы на велізарныя адлегласці нашай Айчыны, лепш пазнаць і палюбіць адзін аднаго, выхоўвае жыватворнае пачуццё адзінай брацкай сям'і, якая ідзе пад кіраўніцтвам партыі да агульнай светлай мэты — камунізму.

Сонечную цеплыню гэтага брацтва, умацаванню якога нястомна служыць літаратура сацыялістычнага рэалізму, на сабе адчулі творцы кніг, якія прыехалі ў Беларусь з усіх рэспублік для ўдзелу ў Тыдні літаратур народаў СССР. Як братоў і сясцёр, як выпрабаваных і верных сяброў сустрэў іх працоўны Мінск.

Вечарам 12 верасня ў канцэртную залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі на ўрачыстае адкрыццё Тыдня літаратур народаў СССР прыйшлі рабочыя прамысловых прадпрыемстваў і будоўляў горада, пісьменнікі, вучоныя, студэнты, воіны Савецкай Арміі.

У прэзідыуме ўрачыстага вечара — П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, У. І. Падрэз, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, партыйныя, савецкія работнікі, пісьменнікі брацкіх рэспублік, літаратары Беларусі, вядомыя дзеячы навукі, культуры і мастацтва рэспублікі, знатныя рабочыя.

Урачысты сход, прысвечаны вялікаму святу брацтва савецкіх народаў, адкрыў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, народны паэт БССР Максім Танк.

— Кожны новы дзень, — сказаў ён, — набліжае нас да вялікага свята нашай Радзімы — да слаўнага 50-годдзя ўтварэння СССР. Да гэтага свята рыхтуецца ўвесь наш савецкі народ і нашы шматлікія сябры ва ўсім свеце. Бо ўтварэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — падзея велізарнейшага гістарычнага значэння. Дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі былі здзейснены карэнныя сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні і ажыццёўлена ленінская праграма нашай партыі па нацыянальнаму пытанню, што садзейнічала небываламу росту эканомікі і росквіту культуры ўсіх народаў нашай Краіны Саветаў, умацаванню нашай абароннай магутнасці і заснаванай на раўнапраўі непарушнай брацкай дружбы ўсіх нацыянальнасцей.

Вось чаму да гэтых эпахальных дасягненняў, якіх дабіўся наш народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, прыкавана ўвага мільёнаў людзей ва ўсім свеце, якія шукаюць выхаду з супярэчнасцей капіталізму. А народы, што скінулі ярмо каланіяльнага прыгнёту, натхнёныя нашым прыкладам, становяцца на светлы шлях сацыялізму, па якім вось ужо больш чым паўстагоддзя крочыць наша краіна.

І мы ўпэўнены, што недалёка той дзень, калі на ўсёй зямлі назаўсёды будзе пакончана з эксплуатацыяй чалавека чалавекам, скрытым і яўным каланіялізмам, расавай няроўнасцю, і народы свету, малыя і вялікія, стаўшы на ленінскі шлях дружбы, будуць жыць у міры і згодзе.

Дружба нашых народаў мае глыбокія карэнні. Яна мацнела і загартоўвалася ў рэвалюцыйнай і вызваленчай барацьбе супраць самадзяржаўя, супраць класавых ворагаў, супраць імперыялістычных інтэрвентаў, у агні Айчыннай вайны і на слаўных новабудоўлях пяцігодак.

Ленінская дружба народаў стала зместам нашага жыцця, і мы ёй абавязаны ўсімі сваімі дасягненнямі і перамогамі.

«Сябры пазнаюцца ў бядзе», — гаворыць народная мудрасць. Беларускі народ заўсёды будзе ўдзячны вялікаму рускаму народу і ўсім брацкім народам нашай Радзімы за іх дапамогу ў суровыя гады цяжкіх выпрабаванняў вайны, удзячны за тую велізарную дапамогу, якая была аказана ў пасляваенныя гады аднаўлення і будаўніцтва нашай рэспублікі і якую мы ўсе адчуваем штодзённа ва ўсіх нашых справах, пачынах і планах.

Дружба! Мы заўсёды яе адчуваем у поціску нашых брацкіх рук, у кожнай скібе нашага хлеба, у нашых сумесных марах і імкненнях; мы яе бачым у светлым абліччы Радзімы, у радасных вачах нашай дзетвары, у палымнеючым ззянні нашага сцяга; мы яе чуем у рытмічным гуле нашых фабрык і заводаў, турбін і трактараў, у палёце міжпланетных караблёў і ў нашых звонкіх песнях.

Асабліва яркае адлюстраванне знайшла наша ленінская дружба ў нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры, якая сёння гаворыць больш чым на 70 мовах народаў СССР, якім Савецкая ўлада стварыла ўсе неабходныя ўмовы для свабоднага, раўнапраўнага і шчаслівага жыцця, для гарманічнага развіцця і росквіту іх нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры.

Вось чаму гэта літаратура карыстаецца нязменнай любоўю ў сваёй краіне і за яе межамі, аб чым сведчаць небывалыя ва ўсёй гісторыі друкаванага слова шматмільённыя тыражы кніг савецкіх пісьменнікаў і пераклады іх твораў амаль на ўсе мовы свету.

Мы, беларускія пісьменнікі, ганарымся тым, што ў радзе лепшых твораў савецкай літаратуры стаяць і творы нашых пісьменнікаў, якія дзякуючы перакладам на рускую мову атрымалі пуцёўку ў шырокі свет. Гэта ў першую чаргу творы нашых класікаў Купалы, Коласа, Багдановіча, творы Лынькова, Крапівы, Броўкі, Куляшова, Панчанкі, Лужаніна, Мележа, Шамякіна, Брыля, Быкава і многіх іншых. Нельга пераацаніць велізарнейшае значэнне перакладаў нашых твораў на рускую мову — мову нашай дружбы, нашых міжнародных сувязей, якую цяпер, згодна са статыстыкай, ведае каля паўмільярда людзей у свеце.

Мы бясконца ўдзячныя, гаворыць далей Максім Танк, нашым рускім сябрам, якія працягваюць і далей развіваць слаўныя горкаўскія і фадзееўскія традыцыі нашага брацтва, што вядзе да ўзаемнага ўзбагачэння нашых літаратур. Амаль у кожным друкаваным органе мы знойдзем пераклады прозы, падборкі вершаў з брацкіх літаратур. Сёння на беларускай мове гучаць творы Шолахава, Твардоўскага, Пракоф'ева, Рыльскага, Малышкі, Нагнібеды, Судрабкална, Мусы Джаліля, Межэлайціса, Айтматава, Гамзатава, Зульфіі, Кугульцінава і многіх, многіх іншых. Напярэдадні слаўнага 50-годдзя СССР на ўкраінскай мове выйшла найбольш поўная двухтомная анталогія беларускай паэзіі. Такая ж анталогія ўкраінскай паэзіі рыхтуецца намі да выдання на беларускай мове. Немагчыма пералічыць усё тое, што зроблена нашымі творчымі саюзамі, рэдакцыямі газет, часопісаў, выдавецтвамі. Цікавыя планы ў нас на будучыню.

Шматнацыянальная савецкая літаратура з'яўляецца адной з самых цікавых з'яў ва ўсёй сучаснай культуры чалавецтва. Яна ўвабрала ў сябе ўсе лепшыя дасягненні сусветнай класікі, каштоўнейшую спадчыну літаратур нашай краіны і на новай аснове сацыялістычнага гуманізму далей развівае іх прагрэсіўныя традыцыі. Гэта літаратура ўпершыню падняла на п'едэстал чалавека працы, стваральніка новага жыцця, барацьбіта за светлую будучыню чалавецтва — камунізм. Яна не абмяжоўваецца нейкімі сваімі вузканацыянальнымі рамкамі, а, прасякнутая ўдзячным пачуццём савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму, як па ідэйнаму гучанню, так і па форме з'яўляецца самай прагрэсіўнай і самай наватарскай.

Партыя заўсёды клапацілася, каб наша літаратура развівалася ў цесным кантакце з жыццём. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічаюць творчыя сувязі пісьменнікаў, сустрэчы з рабочымі, калгаснікамі, і, асабліва, сумесныя паездкі, такія, як на Далёкі Усход, Алтай, у Краснаярскі край, Данбас, на Кубань, па памятных ленінскіх мясцінах, па слаўных дарогах рэвалюцыйных падзей, Айчыннай вайны, партызанскіх зонах, на шматлікія будоўлі пяцігодкі. Не дзіўна, што ў нашай літаратуры апошніх гадоў усё больш прыкметна адчуваецца подых бязмежных прастораў нашай Радзімы і павялічваецца кола тэм.

Тыдзень літаратур народаў СССР у Беларусі, гаворыць у заключэнне Максім Танк, з'яўляецца хвалюючай і знамянальнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі, сведчаннем росту нашых творчых сіл, нашай пісьменніцкай справаздачай перад народам і партыяй, якой мы, савецкія пісьменнікі, бязмежна ўдзячныя за яе клапатлівыя адносіны і дапамогу ва ўсіх нашых творчых і арганізацыйных справах і пачынаннях. Савецкія пісьменнікі будуць яшчэ больш актыўна адстайваць і развіваць асновы партыйнасці і народнасці нашай літаратуры сацыялістычнага рэалізму, нястомна змагаючыся за яе ідэйны і мастацкі ўзровень, за творчую і жанравую разнастайнасць.

Мы бясконца рады, што нам, савецкім пісьменнікам, выпала шчасце зброяй свайго слова змагацца за ажыццяўленне неўміручых ідэй Леніна, за мірнае супрацоўніцтва паміж народамі, за перамогу камунізму.

На трыбуне — кіраўнік дэлегацыі літаратараў РСФСР вядомы рускі пісьменнік Віталій Закруткін. Цёпла і пранікнёна гаворыць ён аб дружбе народаў СССР, аб людзях нашай рэспублікі.

— Для нас, расійскіх пісьменнікаў, — сказаў ён, — вялікі гонар быць гасцямі Беларусі — рэспублікі, якую мы глыбока любім і паважаем, рэспублікі-партызанкі і нястомнай працаўніцы. Мы спадзяёмся, што вынесем вялікія ўражанні ад сустрэч з гераічным беларускім народам і гэтыя ўражанні выкажам у сваіх новых творах — раманах і апавяданнях, вершах і паэмах. Мы горача і сардэчна перададзім іх нашым чытачам, з якімі будзем сустракацца, калі прыедзем дадому.

Мы па-брацку шчаслівыя і па-таварыску шчыра радуемся поспехам беларускай літаратуры. Сёння яе па праву можна назваць байцом пярэдняга краю за вялікія ідэалы. Яна нясе ў сабе ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму і рэвалюцыйнага гуманізму. Яна — раўнапраўная сястра ў адзінай сям'і ўсіх нашых брацкіх літаратур. А дружная сям'я, як вядома, адзінствам моцная.

Пісьменнік падкрэслівае, што свайго росквіту беларуская літаратура дасягнула дзякуючы ўзаемасувязі з усімі брацкімі літаратурамі, заснаванай на добрым творчым узаемаўплыве — абмене вопытам, працягу і развіцці перадавых традыцый, прынцыповай, бескампраміснай, але справядлівай і добразычлівай крытыцы.


З вялікай цікавасцю слухалі мінчане выступленні пасланцоў братніх народаў.

Выступленне Віталія Закруткіна было сустрэта працяглымі апладысментамі. Гэта сардэчнае адабрэнне яго слоў з'явілася і знакам глыбокай удзячнасці вялікай рускай савецкай літаратуры, якую ён прадстаўляе.

Выступае прадстаўнік пісьменніцкай арганізацыі Украіны Аляксей Палтарацкі. Ад імя сабратоў па пяру і шматмільённай арміі чытачоў Савецкай Украіны ён перадае гарачае прывітанне брацкаму беларускаму народу.

— У 1950 годзе я быў у Мінску, — гаворыць Аляксей Палтарацкі. — Я бачыў малады і адбудаваны горад. Аб ім я пісаў у нашай украінскай прэсе нарысы, расказваў аб планах мінчан. Прыемна чуць і гаварыць аб вялікіх планах, але яшчэ больш прыемна бачыць іх ажыццёўленымі.

Цяперашні прыезд у сталіцу Беларусі прыемна здзівіў мяне зменамі, якія адбыліся. Мы пабывалі на заводзе імя Арджанікідзе, сваімі вачыма ўбачылі нараджэнне «разумных» машын. Гэта сапраўды крок у новую эпоху. Мяне ахапіла гордасць за савецкі народ, за яго розум, талент. Ён творыць цуды.

— Хочацца сказаць, — працягвае Аляксей Палтарацкі, — што ўкраінскія пісьменнікі, як і іх калегі ва ўсіх рэспубліках, сустракаюць 50-годдзе ўтварэння СССР з новымі творамі. У іх яны імкнуцца паказаць духоўную энергію ўсіх народаў-братоў, ствараюць прывабны для ўсіх сумленных людзей планеты вобраз нашага сучасніка — чалавека Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў навекі парадніўся з зямлёй Беларусі, дзе змагаўся ў радах народных мсціўцаў. Беларускі народ мае права лічыць сваімі сынамі ўзбекскага мастака слова Султана Джуру, паэта Грузіі Мірзо Гелавані і многіх іншых літаратараў Краіны Саветаў, якія гераічна змагаліся супраць фашызму на беларускай зямлі.

У бітвах Вялікай Айчыннай пісьменнікі з асаблівай сілай пазналі цану дружбы, узаемавыручкі і ўзаемадапамогі людзей, аб'яднаных адным пачуццём: любоўю да Радзімы і нянавісцю да ворага.

Аб гэтым брацтве, правераным у баях, усхвалявана гаварыў калмыцкі паэт Давід Кугульцінаў. Ён падзяліўся думкамі аб вытоках дружбы і агульнасці інтарэсаў усіх народаў-братоў вялікага Савецкага Саюза, аб узаемаўзбагачэнні нацыянальных па форме, сацыялістычных па зместу літаратур усіх рэспублік.

— Нам прыемна сёння бачыць адроджаныя гарады і вёскі Беларусі, — сказаў паэт, — яе абноўленую зямлю. Радасна адзначыць, што ўсе гэтыя змены, вялікая стваральная праца беларускага народа знаходзяць сваё адлюстраванне ў сённяшняй нацыянальнай літаратуры, якая карыстаецца папулярнасцю і ў калмыцкага чытача.

На маёй роднай мове, працягвае Давід Кугульцінаў, гучаць цяпер многія творы беларускіх пісьменнікаў. Знаёмячыся з імі, працоўныя Калмыкіі знаёмяцца з поспехамі і дасягненнямі брацкага народа, з самой яго душой.

Камуністам — людзям высокай ідэйнай загартоўкі, бязмежнай адданасці справе партыі, справе Леніна, людзям крыштальна чыстай душы, якія сталі ў наш час сапраўднымі рулявымі зямлі, прысвяціў свой верш беларускі паэт Максім Лужанін. Вось заключная страфа яго вершаванага выступлення:

Дзень развіднеў. Прастор і
шырок, і вялік.
Развяваецца партыі сцяг
непахісны.
І ад шостай часціны па
цэлай зямлі
Найвышэйшую праўду і
волю ўзнялі
Камуністы, сыны
камуністаў!

Дзе б ні жыў савецкі чалавек, да якой бы нацыянальнасці ні належаў, — сёння мысліць ён маштабамі ўсёй Савецкай краіны, жыве яе трывогамі і радасцямі, па праву лічыць сябе ўдзельнікам усіх здзяйсненняў яе народаў. Немалы ўклад у нараджэнне і выхаванне гэтага пачуцця агульнасці, савецкага патрыятызму ўнесла наша шматнацыянальная літаратура.

Добрую службу саслужаць выхаванню такога пачуцця і пранікнёныя вершы вядомага паэта Віктара Бокава «Я русский». З гордасцю і поўным правам паэт гаворыць:

Я русский, но зачем
кичиться
Великостью своей?
Я прост!
Моя мечта, как тройка,
мчится.
Она теперь у самых звезд.
Я и Титов, я и Гагарин,
Я и в тени и на виду.
Над дымом мартовских
проталин
Бьет крыльями мой гимн
труду.

Кому колодец нужен —
вырою,
Понадобится — дом
срублю.
Все потому, что землю
милую,
Свое Отечество люблю.

Набліжаецца гістарычная дата паўвекавога юбілею Савецкага Саюза. Але з кожным годам маладзее Краіна Саветаў. Маладзеюць яе гарады і вёскі, яе бязмежныя прасторы. Усё большай радасцю азараецца жыццё народа. Аб гэтым вобразнай мовай паэзіі расказаў на вечары пасланец Узбекістана Талкун Імамхаджаеў.

Нізкі паклон ад пісьменнікаў і ўсіх працоўных Ленінграда перадаў прысутным Уладзімір Дзягілеў.

Лёс ленінградца склаўся так, што пасля прарыву блакады ён з роднага горада трапіў у Беларусь, удзельнічаў у яе вызваленні. У памяці пісьменніка захаваўся палаючы Мінск, руіны беларускіх гарадоў і вёсак. І цяпер адноўлены цудоўны горад, адроджаная Беларусь здаюцца яму сапраўды цудам.

— Вялікая Айчынная вайна,— сказаў пісьменнік, — правяла пробу звышмоцнага сплаву, які называецца СССР.

Баявое брацтва перарасло ў брацтва працоўнае, у брацтва літаратур. Ленінградцы высока цэняць лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў, з якімі знаёмы па выдадзенай у горадзе на Няве ў хуткім часе пасля вайны анталогіі беларускай літаратуры, па кнігах і перакладах, якія публікуюцца ў перыядычных выданнях.

— Я ўпершыню прыехаў у Савецкую Беларусь.— гаворыць казахскі паэт Кайрат Жумагаліеў. — Шчаслівы, што гэта сустрэча з брацкай рэспублікай адбылася іменна напярэдадні 50-годдзя ўтварэння Савецкага Саюза. Тыдзень літаратур народаў СССР, які праходзіць у Беларусі, пацвярджае, што дружба народаў — гэта і дружба літаратур. Цяпер героі многіх беларускіх твораў гавораць па-казахску, а мастацкае слова нашай рэспублікі, перасягнуўшы праз тысячы кіламетраў, знайшло сваіх паклоннікаў сярод чытачоў Беларусі.

Мы наведалі трактарны завод, пазнаёміліся са стваральнікамі машын, якія добра вядомы сельскім працаўнікам Казахстана. Я быў усхваляваны і да глыбіні душы расчулены той цеплынёй і ўвагай, з якой сустракалі нас мінскія трактарабудаўнікі. Мне прыемна адзначыць, што яны тонка адчуваюць і глыбока разумеюць паэзію. Упэўнены, што ўражанні ад гэтых сустрэч выльюцца ў радкі новых вершаў, якія расказваюць аб стваральнай працы мінчан, вялікім брацтве народаў Савецкага Саюза.

— Знамянальна, што гэты Тыдзень брацкіх літаратур народаў СССР праходзіць напярэдадні вялікага юбілею — 50-годдзя ўтварэння СССР, — гаворыць пасланец пісьменнікаў Кіргізіі Тален Шамшыеў. — Тут, у Беларусі, сустрэліся прадстаўнікі многіх нацыянальных літаратур, і беларускі народ сустракае нас як родных братоў. Мы бачым вялікія поспехі Беларусі, якая ў адзінай савецкай сям'і ідзе вялікім шляхам ажыццяўлення планаў камуністычнага будаўніцтва.

Тален Шамшыеў расказаў аб пераменах, якія адбыліся ў яго рэспубліцы за гады Савецкай улады. Ён падкрэсліў, што пераўтварэнні ў Кіргізіі былі б немагчымыя без брацкай дапамогі вялікага рускага народа, усіх народаў-братоў шматнацыянальнай Краіны Саветаў. Вялікія поспехі, якіх дасягнула Кіргізія, непарыўна звязаны з імем Леніна, які ўказаў усім прыгнечаным народам шлях да свабоды і шчасця.

— Мы з вялікім натхненнем услаўляем новае жыццё, — падкрэсліў кіргізскі пісьменнік. — Бо яно адкрывае вялікія магчымасці для творчасці, для стваральнай працы. Само гэта жыццё — як песня.

Выступае таджыкскі паэт Хабібула Файзула:

— Мы жывём у краі высокіх гор, але заўсёды адчуваем сябе блізкімі і жаданымі ва ўсіх брацкіх рэспубліках Краіны Саветаў.

Таджыкі на сваёй роднай мове чытаюць творы брацкіх савецкіх літаратур, у тым ліку і беларускіх паэтаў і празаікаў — Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Івана Мележа і іншых.

Усё, што мы, савецкія пісьменнікі і паэты, ствараем на многіх мовах народаў, — гаворыць паэт, — гучыць сімфоніяй вечнай, непарушнай дружбы і брацтва.

Туркменскі пісьменнік Какалы Бердыеў расказаў у сваім выступленні аб вялікай сіле дружбы народаў СССР.

50 гадоў назад многія сыны нашай Радзімы разам з туркменамі ўстанаўлівалі ў пясках Кара-Кумаў Савецкую ўладу. У гады вялікай Айчыннай вайны сыны Туркменіі плячо ў плячо з рускімі і ўкраінцамі, літоўцамі і грузінамі абаранялі свяшчэнную зямлю Беларусі — савецкую зямлю!

Непісьменны ў мінулым туркмен сёння на сваёй роднай мове чытае Твардоўскага і Ганчара, Купалу і Танка, Шамякіна і Межэлайціса і многіх іншых пісьменнікаў вялікай Краіны Саветаў.

Аб падобным лёсе савецкіх народаў, аб'яднаных непарушнай дружбай, аб непарыўным адзінстве брацкіх літаратур гаварылі ў сваіх выступленнях азербайджанскі паэт Нарыман Гасанзадэ і армянскі пісьменнік Варткес Бабаян.

— Першыя сустрэчы з беларускімі чытачамі, — сказаў малдаўскі пісьменнік Уладзімір Бяшляга, — паказалі, як горача яны любяць і цэняць таленавітае слова мастака. Мы яшчэ раз адчулі, якая адказнасць ляжыць на нас, пісьменніках, перад народам, чые спадзяванні і думкі мы адлюстроўваем. Мы абавязаны тонка адчуваць і вывучаць жыццё, ведаць яго, праўдзіва адлюстроўваць у творах.

Можна з упэўненасцю сказаць, што гэта свята, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза, паслужыць справе збліжэння брацкіх літаратур.

Аб цеснай дружбе народаў, аб узаемных кантактах літаратараў рэспублік-сясцёр гаварыў вядомы літоўскі паэт Альфонсас Малдоніс. Ён таксама падкрэсліў, што літаратурныя сувязі, ажыццёўленыя ў розныя гістарычныя перыяды, былі карыснымі і неабходнымі для абедзвюх літаратур. Яны садзейнічалі дружбе народаў, дапамагалі глыбей разумець нацыянальныя асаблівасці характару, узбагачалі літаратуру кожнай рэспублікі. Цяпер у Літве добра вядомы імёны і творы многіх беларускіх пісьменнікаў.

Палымяныя патрыятычныя радкі Купалы, што клікалі да барацьбы з нямецкім фашызмам, перакладзеныя на літоўскую мову Саламеяй Нерыс, верна служылі савецкім воінам, беларускім і літоўскім партызанам, якія змагаліся супраць карычневай чумы, за свабоду і незалежнасць вялікай Савецкай Радзімы.

Нам прыемна, падкрэсліў Альфонсас Малдоніс, што і чытачам брацкай Беларусі, як і іншых рэспублік, знаёмы імёны Крысціёнаса Данялайціса, Эдуардаса Межэлайціса, Юозаса Балтушыса, Анастаса Венцлавы і іншых пісьменнікаў, што літоўскае літаратурнае слова карыстаецца папулярнасцю ў нашай краіне.

Пад дружныя апладысменты ўдзельнікаў вечара латвійскі паэт Еранім Стулпан прачытаў свой верш аб радасці стваральнай працы на карысць Радзімы, аб шчасці тых, хто ўмее працаваць творча і натхнёна. Закончыў ён свой верш такімі словамі:

Я видел: «Праца»
волшебству сродни!
Когда в согласьи
с «працай» человек,
Когда друг друга свято
чтят они,
Им на земле дается
долгий век.

— Нашы беларускія сябры, — сказаў у сваім выступленні эстонскі паэт Олеу Иыгі, — паказалі нам сёння помнік народнаму паэту Беларусі Я. Купалу. Мы любаваліся гэтым выдатным творам мастацтва. Вельмі прыемна бачыць павагу, якую праяўляюць савецкія людзі да вялікага сына беларускага народа.

Прамоўца гаворыць аб адзінстве брацкіх літаратур.

У заключэнне вечара Максім Танк ад імя прысутных сардэчна падзякаваў гасцям за выступленні, за ўдзел у Тыдні літаратур савецкіх народаў, праходзячым у Беларусі і прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР, пажадаў ім здароўя, шчасця і поспехаў у працы ў славу нашай Радзімы.

Затым адбыўся вялікі святочны канцэрт.

●

Раніцай 12 верасня пісьменнікі брацкіх рэспублік разам са сваімі беларускімі калегамі прыйшлі на плошчу Перамогі.

Многія з іх — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, апаленыя яе грозным агнём. Савецкія пісьменнікі, якія змагаліся разам з усёй краінай у салдацкім страі і ў радах партызан, прысвяцілі самыя натхнёныя кнігі ўсенароднаму подзвігу сваёй краіны, гістарычным бітвам і перамозе над фашызмам.

Нямала такіх кніг і на рахунку сённяшніх гасцей Беларусі. Цяпер яны ў жалобным маўчанні замёрлі ля Вечнага агню перад помнікам-абеліскам воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі, якія загінулі ў баях за вызваленне нашай Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Няма ў краіне народа, сыны і дочкі якога не змагаліся б на беларускай зямлі. Вядомыя і безыменныя, яны крывёю і самім жыццём сваім змацавалі і ўсталявалі непарушнае брацтва ўсіх савецкіх нацый, подзвігам сваім завяшчалі ўмацоўваць яго будучым пакаленням.

Кіраўнік дэлегацыі пісьменнікаў РСФСР Віталій Закруткін і народны паэт Беларусі Максім Танк ад імя ўсіх удзельнікаў тыдня ўсклалі ля падножжа абеліска вянок — даніну ўдзячнасці героям, сімвал завешчанага імі адзінства, сімвал непарушнай злітнасці народа, мастакоў слова ў барацьбе за светлыя камуністычныя ідэалы.

Адным са светлых прыкладаў вернасці гэтым ідэалам, вернасці народу і партыі быў і застаецца адзін з заснавальнікаў савецкай беларускай літаратуры — народны паэт Янка Купала. Яго палымяныя словы «Я ўсе свае сілы, думы, парывы майго сэрца аддам народу, партыі Леніна» сталі дэвізам кожнага пісьменніка-патрыёта.

Сёння Янка Купала на стагоддзі ўзняўся ў бронзе ў сваім родным Мінску. Як на спатканне з жывым, прыйшлі да помніка яму госці нашай сталіцы, беларускія літаратары. Пісьменнікі ўсклалі кветкі ля гранітнага ўзгорка, па якому вечна крочыць насустрач услаўленаму ім савецкаму брацтву неўміручы Купала.

●

Многія з гасцей — упершыню на зямлі нашай рэспублікі. Яны не бачылі руін, з якіх узняўся цяперашні прыгажун-Мінск. Усе народы краіны прыйшлі тады на дапамогу Беларусі, у працы прадоўжыўшы эстафету брацтва, змацаванага крывёй бітваў. І горад адрадзіўся, стаў прыгажэйшы, чым быў.

Па шырокіх зялёных праспектах Мінска пралёг шлях гасцей на першае спатканне з рабочым класам беларускай сталіцы.

Госці разам з пісьменнікамі Беларусі пабывалі на заводах імя Арджанікідзе, аўтаматычных ліній, гадзіннікавым і трактарным.

Як самых дарагіх і жаданых сяброў прымалі пісьменнікаў заводскія калектывы. Іх знаёмілі з вытворчасцю, з навінкамі тэхнікі, створанымі розумам і рукамі заводскіх наватараў. Пісьменнікам дакладвалі аб поспехах на вахце другога года дзевятай пяцігодкі.

На кожным з гэтых прадпрыемстваў адбыліся сустрэчы з пісьменнікамі, дзе майстры слова расказалі рабочым аб напружанай працы празаікаў і паэтаў, драматургаў і публіцыстаў сваіх рэспублік, якія разам з усім народам рыхтуюць творчыя падарункі юбілею СССР.

Сярод пісьменнікаў, якія прыехалі на трактарны, быў і саратаўскі празаік Мікалай Шундзік. Тыповы для адносін паміж савецкімі людзьмі яго асабісты лёс. Беларус па паходжанню, ён доўга жыў на Далёкім Усходзе. Працуючы настаўнікам у чукоцкім качэўі, ён нёс веды і культуру маленькаму народу, які не меў да Савецкай улады ўласнай пісьмовасці. Людзі далёкай Чукоткі сталі героямі яго першых твораў.

Цяпер Мікалай Шундзік — галоўны рэдактар часопіса «Волга», на старонках якога часта з'яўляюцца імёны паэтаў і празаікаў многіх народаў краіны, у тым ліку беларускіх аўтараў.

Спадабаліся рабочым трактарнага завода вершы Гілямдара Рамазанава і яго расказ аб роднай Башкірыі. Дружнымі апладысментамі адзначылі слухачы верш аб казахскім хлапчуку, прачытаны Кайратам Жумагаліевым. Словы маленькага героя верша, які марыць аб прафесіі ўрача, прагучалі як дэвіз самога пісьменніка-гуманіста:

«Я буду так лечить
людей,
Чтоб люди никогда не
умирали!»
(БЕЛТА).

*ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ*

**Альфонсас МАЛДОНІС**

Літва

●
Свет чалавека — дальнія
арбіты
У невымернай зорнай іх красе.
Свет чалавека — дзёрзкі
той набытак,
Што нам з сабой фантазія нясе.

Свет чалавека — у тайзе
палатка,
Акно ў сцяне і даляў перазвон,
Свет чалавека — вечная
загадка,
Якую разгадаць імкнецца ён.

Ўсе дзесяць муз стаяць
на п'едэсталах,
Як дзесяць дзіўных сонечных
сясцёр.
Ляціць Зямля ў абшарах
небывалых,
Сваім дыханнем будзячы
прастор.

Ракеты праплываюць зорнай
трасай,
Высочваюць радары іх намер.
І на раялі дзён мінулых
страсці
Гучаць зусім не камерна цяпер.

Якое дзіва — разумець
вярчэнне
Зямлі, дзе сны і подзвігі твае,
І ўсёй істотай зведаць
прыцяжэнне
Яе трывог і хуткасцей яе!

Усё глыбей і шырай перад намі
Штодзённа адкрываецца яна
З вяршынямі, раўнінамі, гарамі
І з быстрынёю, што не знае
дна.

Не бойцеся, хто нарадзіцца
мае,
Заходзьце ў наш зямны
цудоўны дом,
Нішто нас у дарозе не стрымае,
Мы з лабірынта да святла
ідзём!

Паветра ўдосталь будзе вам
і хлеба,
Сваіх лятункаў і сваёй бяды.
Навекі будзе ясным ясна неба,
Душа — празрыста чыстаю
заўжды.

Пераклаў П. МАКАЛЬ.

**Петру ЗАДНІПРУ**

Малдавія

## СТАРЫЯ КАМУНІСТЫ

Гады пралятаюць.
А сэрца ўсё ные,
Калі я прыгадваю,
як неўпрыкмет
Жыццё пакідаюць партыйцы
старыя,
Людзі,
што ачалавечылі свет.
Гады пралятаюць.
Не меншыцца гора
Ад страты старэйшых сяброў
і братоў.
Шляхі іх —
як быццам шляхі метэораў,
Прарэзалі цемень дрымотных
вякоў.
І вось адыходзяць,
як першыя домны,
Дзе ўжо адгудзеў рэвалюцый
метал,

Партыйцы —
наперад ішоў хто нястомна,
Хто першую сцежку ў наш век
пратаптаў.
Не трэба ні слёз,
ні цяжкіх манументаў.
Хай пухам зямля ім!
Не плачце, сыны!
Надзеяй і болем пяці
кантынентаў
Перахварэлі дарэшты яны.
Ніяк не змірыцца нам з гэтаю
стратай.
Да нашых нашчадкаў праз далі
вякоў
Вяртацца вы будзеце
песняй і славай,
Старэйшыны партыі
бальшавікоў!

Пераклаў А. ГРАЧАНІКАЎ.

**Віктар БОКАЎ**

Расія

## РЭЧКА РОСЫНЬКА

Спадабалася рэчка Росынька—
Дзеўчанё вясковае светлае —
Невядомая, надта просценькая,
Невядомасцю той адметная.

Сваё рэчышча то карункамі
Выплятае, а то ўзорамі.
Ноччу жнівеньскай цецярук
у ёй,
Нібы зерні, выклюне зорачкі.

І дзяўчаты — лілеі белыя —
Да ракі праклалі дарожаньку,
А адна спалохана: «Бегла б я,

Ды хапае хтосьці за ножанькі.

Ой, дзяўчаткі, ратуйце!»
Смешная!
Так заблытацца ў канюшынніку!
Ды хутчэй жа ідзі, няспешная,
Выбірайся сюды, дзе шырака!

Цёмна косанька, рэчка
Росынька!
Над дзявочай тваёй галоўкаю
Перазвоньваюць травы росныя,
Песні радасныя салоўкіны!

Пераклала В. ІПАТАВА.

**Турар КАЖАМБЕРДЫЕЎ**

Кіргізія

## ДАЛОНЬ

Дзе прайшла навальніца,
дзе паваленых клён, —
я знайшоў птушаня,
пасадзіў на далонь.
Стала мяккім гняздзечкам
жывая далонь.
Адпускаю шпачка!..
Зноў вяртаецца ён.

О, далонь!
Ты — калыска
птушаняў і байца.
У цябе ні пачатку няма,
ні канца.
О, далонь!
Як ты справішся
з ношай такой? —
шар зямны на далоні
ў трывозе зямной.

Пераклаў М. ФЕДЗЮКОВІЧ.




Кнігі пісьменнікаў братніх рэспублік на беларускай мове.

# ТВОРЫ ГУЧАЦЬ У ЦЭХАХ

Мінскі завод аўтаматычных ліній — адно з буйнейшых прадпрыемстваў краіны. Прадукцыя яго добра вядома ва ўсіх кутках Савецкага Саюза. Прадпрыемства інтэрнацыянальнае. Працуюць тут беларусы, украінцы, рускія, а таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Многія, вядома, цікавяцца навінкамі літаратуры народаў братніх рэспублік. Вось чаму на сустрэчы з удзельнікамі Тыдня літаратур народаў СССР, якая адбылася 12 верасня, было ажыўлена. Да рабочых прыехалі Іван Сварнык і Халіда Гасілава, Талкун Імамхаджаеў і Уладзімір Дзягілеў, Іосіф Васілеўскі, Леанід Прокша і Альфонсас Малдоніс. Узначальваў групу народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ.

Іван Мележ коратка расказвае аб творчым шляху ленінградца Уладзіміра Дзягілева. Так ужо атрымалася, што жыццёвы шлях пісьменніка звязаны і з беларускай зямлёй. Пасля прарыву варожай блакады ён ваяваў на другім Беларускім фронце. Уладзімір Дзягілеў, які выступіў затым, перадаў рабочым завода прывітанне ад ленінградцаў.

— Я з поўным правам магу сказаць, — прызнаецца пісьменнік, — што Беларусь родная і для мяне.

Урач па прафесіі, У. Дзягілеў некалькі кніг прысвяціў медыкам. Плённа распрацоўвае ён і рабочую тэму. Вось ужо 12 гадоў пісьменнік падтрымлівае цесную сувязь з калектывам завода «Электрасіла». Аповесці «Вечнае дрэва», «Спатканне з юнацтвам», сцэнарый фільма «Васемнаццаць маіх хлопцаў» —творчы вынік гэтай дружбы. Чытачы — рабочыя высока ацанілі працу пісьменніка — яму прысвоена званне ганаровага электрасілаўца. Цяпер мінскім рабочым У. Дзягілеў чытае ўрывак з новай аповесці «Гвардзейцы». Яе дзеянне адбываецца на тэрыторыі Беларусі, пад Асіповічамі. У эпізодзе расказваецца аб цяжкай, поўнай паўсядзённага гераізму працы ваенных урачоў.

Іван Сварнык на Украіне добра вядомы, як паэт і перакладчык твораў беларускіх пісьменнікаў. На сустрэчы ён гаварыў аб агульнасці лёсаў беларускага і ўкраінскага народаў, аб тых цесных сувязях, якія існуюць паміж літаратарамі. І хоць свае новыя байкі ён чытаў на ўкраінскай мове, рабочыя добра зразумелі аўтара. Лепшае сведчанне таму — дружныя апладысменты.

З цікавасцю слухалі прысутныя вершы Іосіфа Васілеўскага, паэта, які піша на рускай мове. Прачытаў ён у перакладзе і верш Кастуся Кірэенкі «Беларусь — Расія», які ўвойдзе ў кнігу «Беларуская лірыка».

Потым зноў выступіў народны пісьменнік Беларусі Іван Мележ. Добрая сардэчная атмасфера панавала да канца абедзеннага перапынку. На памяць аб гэтай сустрэчы гасцям былі ўручаны значкі, выпушчаныя ў гонар дзесяцігоддзя завода.

З рабочымі сустрэлася і другая група пісьменнікаў на чале з Леанідам Прокшам.

Пасля чытання твораў беларускія пісьменнікі і госці пазнаёміліся з работай прадпрыемства, сустрэліся з лепшымі людзьмі. Герой Сацыялістычнай Працы, вядомы расточнік А. Віташкевіч расказаў аб сваёй рабоце, а майстар І. Блок— аб станках з праграмным кіраваннем.

Сустрэчы, якія адбыліся на заводзе, запомняцца і рабочым, і пісьменнікам—у сэрцах усіх яны пакінулі добры след.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# СЛОВЫ, ЗРАЗУМЕЛЫЯ БЕЗ ПЕРАКЛАДУ

Тыдзень братніх літаратур у Беларусі стаў тыднем незабыўных сустрэч. Чытачоў — з аўтарамі знаёмых твораў, з паэтамі, чые вершы сталі любімымі песнямі. Сяброў па творчасці. Братоў па зброі.

...У 1944 годзе ў Празе рассталіся сябры — лейтэнант Ул. Жукаў і капітан А. Кажушкоў. Усю вайну праслужылі яны ў адным кулямётным батальёне. 23-гадовы Анатоль з Беларусі, 20-гадовы Валодзя з Іванаўшчыны і сувязная Валя. На самыя адказныя заданні пасылалі «хлапчукоў»—Анатоля і Валодзю. Скончылася вайна, раз'ехаліся сябры ў розныя мясціны.

28 гадоў мінула з той пары. І вось на свята братніх літаратур прыехаў пісьменнік з Іванава Ул. Жукаў і адшукаў былога сябра — выкладчыка гісторыі БДУ, кандыдата гістарычных навук А. Кажушкова і яго жонку Валю!

Пра такую сустрэчу не забудзеш!

...Аўтобусы — ля прахадной Мінскага завода электронна-вылічальных машын імя Арджанікідзе.

Кароткая экскурсія па цэхах: ад месца, дзе дэталі будучых «думаючых» машын ляжаць паасобку ў выглядзе металічных рэек, вугольнікаў, праз цэхі зборкі, якія стракацяць рознакаляровымі вясёлкавымі правадкамі, — у вылічальны цэнтр завода, дзе гатовая машына ва ўсёй сваёй красе і розуме працуе.

ЭВМ з маркай «Мінск» для нашых гасцей не навіна. Кожны бачыў яе на прадпрыемстве альбо ў навучальнай установе ў сваім горадзе, рэспубліцы. Але кожны імкнецца «пазнаёміцца» з ёю бліжэй. Цікавіць самае рознае — як запамінае машына, як дзейнічае электронны мозг, ці можа машына рыфмаваць?

Цэх зборкі № 2. Вялізная светлая зала. Большасць рабочых — дзяўчаты. Мусіць, дакладная праца з далікатнымі мініяцюрнымі дэталямі лепш падуладна жаночым рукам.

Тут жа паміж станкоў ставяцца сталы, крэслы: імправізаваная сцэна гатова.

Народны паэт Беларусі Максім Танк, які ўзначальвае групу пісьменнікаў, што прыехалі на завод, ад імя прысутных і ўсіх мінчан вітае гасцей з братніх рэспублік. Ён аддае мікрафон паэту В. Бокаву.

З першых слоў, як толькі В. Бо-




# СЛУЖЫЦЬ ЧАСУ

— Іншы раз нам, пісьменнікам, здаецца, што ўсе толькі і робяць, што чакаюць нашых новых кніг. А на самай справе людзі працуюць і дасягаюць такіх вяршынь, што маюць магчымасць зірнуць на некаторыя нашы кнігі зверху. Таму мы ніколі не павінны забывацца пра ўзровень тых, для каго пішам...

На шчасце, у Беларусі ёсць многа ўзораў сапраўднай літаратуры. Першай адметнай рысай вашай літаратуры мне здаецца яе глыбокая народнасць. Тут многае залежыць ад яе стваральнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія, нястомна чэрпаючы з фальклорных вытокаў, вызначылі ёй такі шлях. Другая яе адметная рыса — шчырая еднасць з народам у найбольш пакутлівыя перыяды яго гісторыі. А я застаюся пры думцы, што толькі літаратура, народжаная высакароднымі пакутамі, ёсць сапраўдная літаратура.

Мне вельмі блізкая ёмістая, своеасаблівая проза Івана Мележа. Я ў захапленні ад творчасці Аркадзя Куляшова, прынамсі, ад яго апошняй паэмы, якая хутка будзе надрукавана ў часопісе «Дружба народов». Я лічу яе лепшай з усяго, што зрабіў паэт. Мяне заўсёды ўражвае тое ўменне, тая свабода, з якімі валодае словам Максім Танк.

Гэтыя надзвычай цёплыя, пранікнёныя словы пра нашу літаратуру выказаў народны паэт Калмыкіі Давід Кугульцінаў у час паездкі на гадзіннікавы завод групы ўдзельнікаў Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі. Шлях ад помніка Купалу, дзе раніцай сабраліся ўсе нашы госці, да завода ляжыць па цэнтральнай магістралі горада, надзвычай прыгожай у гэтыя дні пад няяркім асеннім сонцам. Многа прыемных слоў было сказана гасцямі пра нашу сталіцу.

— Я закаханы ў Мінск! — з паўднёвым тэмпераментам гаворыць паэт з Азербайджана Нарыман Гасан-задэ. — Я ўжо быў тут, а калі з радасцю едзеш яшчэ і яшчэ раз, гэта ўжо сведчыць пра шчырасць пачуцця... Упэўнены, што сёлетняя паездка шмат мне дасць для далейшай работы над перакладамі беларускіх паэтаў.

Дзевяты зборачны цэх чакаў гасцей з нецярплівасцю. Пазнаёміў з імі кіраўнік групы, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Ён сказаў, што такой колькасці выдатных, своеасаблівых прадстаўнікоў братніх літаратур адразу яшчэ ніколі не прымала Беларусь. Квітнее дружба літаратур, штогод мацнеюць традыцыі, закладзеныя калісьці Максімам Горкім.

Свае творы чытаюць Ул. Жукаў з Іванава, В. Бабаян з Арменіі, М. Саідалі з Таджыкістана, У. Даўтартас з Літвы, беларускія паэты Е. Лось і К. Цвірка і інш.

Уважліва слухаюць літаратараў гаспадары завода. Пераважная большасць іх — дзяўчаты і маладыя жанчыны (сярэдні ўзрост рабочых завода — 23 гады). Усе яны ў бялюткіх халатах і наколках, усе шчыра зацікаўлены такой незвычайнай сустрэчай. Гэта, мабыць, і прымусіла Давіда Кугульцінава пачаць сваё выступленне не зусім звычайнымі словамі:

— Мне хочацца сказаць: «Спыніся імгненне!» Але на гадзіннікавым заводзе такія словы, бадай, будуць не да месца...

Сапраўды, імгненне на гадзіннікавым заводзе — справа сур'ёзная. Таму што калектыў прадпрыемства імкнецца, каб ні адзін з 2 820 тысяч гадзіннікаў, якія выпускаюцца ў год, ні на імгненне не спазняўся з выхадам з канвеера, а потым ні на імгненне не адхіляўся ад дакладнага часу. А пра тое, што завод дасягае поспехаў, гаворыць той факт, што ён вытрымлівае канкурэнцыю са славутымі зарубежнымі фірмамі на міжнародных выстаўках і кірмашах. У семнаццаць краін ідуць мінскія гадзіннікі.

— Вы служыце часу, — сказаў у сваім выступленні Ул. Жукаў. І гэтыя словы яшчэ цясней аб'ядналі гасцей і гаспадароў. Бо служыць часу — гэта не толькі рабіць бездакорныя гадзіннікі, але і адчуваць вялікую адказнасць за справу, якой ты прысвяціў жыццё.

**І. ВАЛОДЗІНА.**

---

каў называе знаёмыя песні — «Коля, Коля», «Званочак» і іншыя, — дзявочая аўдыторыя нібы расцвітае. Наладжваецца той кантакт, які нараджае «зваротную» сувязь. Зала непасрэдна і дакладна адклікаецца і на вершы пра каханне, і на расказ пра дружбу, якая нараджалася ў агульнай барацьбе і працы.

Менавіта пра такую братнюю сувязь беларускага і ўкраінскага народаў гаварыў пісьменнік з Украіны А. Палтарацкі.

Паэт з Грузіі Хута Берулава пачаў сваё выступленне з таго, што на беларускім прадпрыемстве, якое носіць імя слаўнага сына грузінскага народа, словы любві і дружбы зразумелыя без перакладу.

Вершы азербайджанскіх паэтаў прачытаў пісьменнік з Баку Акрам Айліслі.

Паэтэса з Кіева Н. Кашчук нагадала пра дачку ўкраінскага народа Лесю Украінку, якая некалькі самых шчаслівых і самых горкіх месяцаў жыцця правяла ў Беларусі. Вершы Н. Кашчук мінскія работніцы таксама зразумелі без перакладу.

У заключэнне свае вершы прачытаў Максім Танк.

Сустрэча, што даставіла радасць гасцям і гаспадарам, скончылася пажаданнем узаемных поспехаў у працы і творчасці, букетамі кветак, якія дзяўчаты паднеслі любімым пісьменнікам.

**Д. РЭГІНІНА.**

---

*ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ*

## Яраслаў СМЕЛЯКОЎ

Расія

●

Я адчуваю: да мяне
Не вельмі хіляцца паэты,
Якія бачаць толькі Фета
Адзінага
у сваім акне.

Трывожыць голасам сваім
Сям'ю лірычную не стану.
Хай тупяць пёры, калі ім
Сугучна музыка пустая.

Ды не хачу цяпер маўчаць,
Калі заступнікі такія
Спрабуюць слёзна шкадаваць
Нас, хто жыў тады ў Расіі.

Хто забурчыць, а хто ўздыхне.
То ў рэфераце, то ў застоллі
Слязу дарэмную змахне
Над нашаю бядняцкай доляй.

Мы навучыліся пісаць,
Любіць, цярпець, не помніць
злосці,
Ды не дазволім завываць
Над гордай нашай маладосцю.

Яна з цямна і да зары
Дружыла з цэглай і лапатай.
І акупіліся затраты,
Калі тут прозай гаварыць.

У даваенныя гады
І на Дняпры і на Урале
Мы дабрату сваю тады
Ад свету цэлага хавалі.

Як у скарбонцы серабро,
Не без трагічных намаганняў,
Сваё духоўнае дабро
Для вас ад часу зберагалі.

А маладосць гадоў маіх,
Тужэй зацягваючы дзягу,
Была не горшай, чым і ўсіх, —
Натхненнем, вытрымкай
адвагай.

Пераклаў Ю. СВІРКА.

## Эўгеніюс МАТУЗЯВІЧУС

Літва

### ДАРОГА

Дарогі і раздарожжы,
Часу удары ля самай скроні
Мяне вучылі жыць.
Вучылі жыць мяне таксама
І раны, і крыўды, і памылкі.
Я ведаў адно:
Калі ўдараў часу чуць не буду,
Як пульс свайго сэрца, —
Магу ўпасці і больш не ўстаць,
Магу прайграць,
Альбо адступіць, як апошні
баязлівец.
А я павінен быў сябе знайсці,
Павінен быў ісці наперад.
Магчыма, вельмі цяжкім
крокам,
Ды ўсё адно ісці, —
Каб выйсці ўрэшце рэшт
На край пярэдні часу,
Каб разам з ім ісці
І быць самім сабой.

Пераклаў А. ВЯРЦІНСКІ.

## Сажыда СУЛЕЙМАНАВА

Татарыя

●

Здаецца мне,
Што людзі з роду птушак,
Калі я ў сне лячу — трывога,
жах!
Ды як бы вецер жудасна
не гушкаў —
Арліны, веру, разгадаю шлях.

Якія ўзлёты людзі ўжо
звяршылі!
Да светаў дальніх трасы
праляглі.
Калі ты сам не ўзыдзеш
на вяршыню,
Дык не адчуеш прыгажосць
зямлі...

Пераклаў І. КАЛЕСНІК.



**М**нога цікавага расказаў сакратар парткома завода аўтаматычных ліній М. Бялугін пісьменнікам Талкуну Імамхаджаеву, Альфонсасу Малдонісу і Халідзе Гасілавай.



Максім Танк сярод чытачоў.

Фота Ул. КРУКА.

# Максіму ТАНКУ—60 гадоў

*17 верасня спаўняецца 60 гадоў народнаму паэту Беларусі, старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі Максіму Танку. Праўленне СП БССР звярнулася да юбіляра з віншаваннем:*

«Дарагі Яўген Іванавіч!

Ад усяго сэрца вітаем Вас і шлем свае гарачыя віншаванні з нагоды Вашага слаўнага шасцідзесяцігоддзя!

Вось ужо сорак год гучыць у беларускай літаратуры Ваш паэтычны голас. Ён увабраў у сябе палымяныя заклікі рэвалюцыйна-падпольных лістовак і кранальную пяшчоту матчынай калыханкі, бяссонны плёскат нарачанскіх хваль і ўзрушаную музыку юначага парыву, грозны гул ваеннай кананады і мірны поступ стваральнай працы. Ваш паэтычны голас уваабраў песню і мару, запаветныя думы і імкненні народа, і таму зразумелы і блізкі шырокаму чытачу. Народ Вас чытае, ён Вас ведае, ён Вас любіць!

Яшчэ на пачатку творчай дзейнасці Вы прайшлі нялёгкую школу рэвалюцыйнага змагання, атрымалі добрую грамадзянскую загартоўку, і таму Ваша муза была заўсёды мэтаімкнёнай, акрыленай, прасякнутай пафасам барацьбы за народнае шчасце, за светлыя камуністычныя ідэалы.

Паэт-наватар, паэт-шукальнік, Вы ў той жа час творча выкарыстоўваеце дасягненні вуснай народнай творчасці, фальклорныя вобразы і матывы. Разам з тым Вы не абмяжоўваецеся літаратурнай нацыянальнай традыцыяй, а смела ўзбагачаеце сваю паэтычную палітру мастацкім вопытам лепшых майстроў братніх народаў. Ваша паэзія з'яўляецца яскравым прыкладам арганічнага спалучэння ў літаратуры нацыянальнага і інтэрнацыянальнага. Яна ўвайшла ў залатую скарбніцу ўсёй савецкай паэзіі.

Актыўную творчую працу Вы паспяхова спалучаеце з шырокай, шматграннай грамадскай дзейнасцю. Народны абраннік, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, акадэмік Акадэміі навук БССР, член Савецкага Камітэта абароны міру, старшыня Беларускага аддзялення таварыства польска-савецкай дружбы, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, — Вы самаахвярна аддаяце свае сілы, сваю нястомную энергію на карысць нашага народа, нашай сацыялістычнай Радзімы.

Сваёй творчасцю і грамадскай дзейнасцю Вы заваявалі любоў і прызнанне народа і па праву носіце высокае званне народнага паэта.

Нас шчыра радуе, што ў свае шэсцьдзесят Вы працуеце молада і плённа, што Ваш талент у росквіце, што Вы поўны новых паэтычных задум.

Доўгіх Вам год жыцця, добрага творчага настрою і багатага паэтычнага плёну, наш дарагі Яўген Іванавіч!».

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага цёплага віншавання, і ў сваю чаргу жадае юбіляру моцнага здароўя і новых творчых здзяйсненняў.*

Іван МЕЛЕЖ

# ПАЭТ, ГРАМАДЗЯНІН, ЧАЛАВЕК

Значэнне пісьменніка залежыць ад таго, наколькі яго творчасць выяўляе душу і лёс народа.

У творчасці Максіма Танка знайшлі шчыры, паэтычны адбітак думы і мары тысяч людзей. Ад верша «Касагоры», пазначанага 1930 годам з кнігі «На этапах», да апошніх вершаў, што пакуль апублікаваны толькі ў часопісах, шчодрай рукой паэта занатаваны ў мастацкім летапісе беларускага народа вялікі абсяг нашага жыцця — больш за 40 гадоў. Амаль паўстагоддзя, нібы своеасаблівы паэтычны дзённік, адбілі ў сабе творы паэта сведчанне дзён, якія здаюцца цяпер далёкім мінулым, дзён, якія добра і востра помняцца драматызмам і напалам змагання з крывавжэрным ворагам, з пасляваеннымі нястачамі, і дзён, якія праходзяць перад нашымі позіркамі сёння.

Ёсць зайздросная якасць у паэзіі, якую калісьці проста і цудоўна выказаў Пушкін, параўноўваючы паэзію з рэхам. Максім Танк усе гады творчай дзейнасці быў на дзіва чулы да жыцця, і паэзія яго ўвасобіла ў сабе самыя разнастайныя, шырокія па фарбах і па танальнасці праявы паўсядзённасці, той паўсядзённасці, якая ўбірае ў сябе і з'явы сусветнага значэння, і «прыватныя» чалавечыя пачуцці, і якая разам, у сваёй нярэдка супярэчлівай злітнасці, і ёсць само жыццё.

Здаецца, няма такой значнай гістарычнай з'явы, якая не знайшла б адбітку ў творчасці Максіма Танка. Азіраючы ўсё тое, што даў людзям Максім Танк, мы не ўбачым моманту, калі б паэт стаяў у баку ад галоўнага, што вызначала сабой гістарычны шлях нашага народа. Паэзія Максіма Танка ва ўсе часы народнага быцця ішла разам з народам па магістральным яго шляху. У гэтых адносінах паэзія Танка — гэта адна з яе характэрных адзнак — у найлепшым значэнні паэзія **грамадзянская**, паэзія значных грамадскіх інтарэсаў. Разам з тым, нікольні не супрацьстаўляючы гэта папярэдняму, а падкрэсліваючы злітнасць абедзвюх якасцей, хачу зазначыць, што паэзія Максіма Танка з рэдкай чуласцю адбіла і свет найтанчэйшых, інтымных пачуццяў. І гэта таксама выдатная якасць танкаўскай паэзіі: яна — вельмі **чалавечная.** Мне здаецца, што вершы Максіма Танка інтымнага характару належаць да лепшых дасягненняў беларускай лірыкі.

Добра вядома: мы жывём у такі час, калі не толькі кожная літаратура, але і кожны літаратар належаць не аднаму свайму народу, сваёй культуры, але і іншым народам, іх культурам. Гэта асаблівасць вымушае нас ацэньваць здабыткі, узровень працы кожнага з нас узроўнем і меркай лепшых дасягненняў савецкай і сусветнай культуры. Да гонару Максіма Танка трэба сказаць, што былы сялянскі юнак з Пількаўшчыны, для якога «універсітэтамі» былі заходнебеларускія этапы і белапанскія краты, змог узняцца ў сваім развіцці да сапраўдных інтэлектуальных вышынь нашага часу, стаць упоравень з высокімі задачамі нашай багатай і складанай сучаснасці. Думаю, што няма патрэбы даводзіць, што па вышыні мыслення і па якасці твораў Максім Танк займае пачэснае месца сярод самых культурных пісьменнікаў нашага народа. У гэтых адносінах, на маю думку, Максім Танк паказвае добры прыклад многім з нас.

Хочацца дадаць да гэтага, што Танку ўласціва не толькі высокая культура творчасці, але і, што не менш важна, высокая культура паводзін, адносін да людзей — і да таварышаў па працы, і да тых, хто да яго прыходзіць упершыню. Адзнакай гэтай культуры лічу цудоўную танкаўскую далікатнасць у абыходжанні з людзьмі, надзвычайную сціпласць, якую не пахіснулі ні выдатныя здабыткі ў літаратуры, ні высокія званні і пасады. Да адзнак гэтай унутранай культуры юбіляра аднясу і высокую сумленнасць, з якой паэт, камуніст і старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Максім Танк выконвае свае шматлікія пісьменніцкія, грамадзянскія абавязкі.

Максім Танк многа зрабіў за свае шэсцьдзесят. Час, гады працы і турбот паклалі і на яго твар свае адзнакі. Але ўсплёскі весялосці, смеху ў Танка маладыя. І часта маладыя агеньчыкі пабліскваюць у вачах такога сталага юбіляра. Паэт не развітваецца з маладосцю.

Гэта дае права на добрыя спадзяванні. Няхай гэтыя спадзяванні здзейсняцца!

Мечыслаў ШАХОВІЧ

## МАКСІМУ ТАНКУ

Ніколі вам не змірыцца
З сумным словам «стары»!
Скіньце гадоў так трыццаць!—
Пройдзем па ціхім бары...

Клічце юначыя вёсны!
Клічце сваю маладосць!
Вам бы у рукі—вёслы,
На Нарачы Вы не госць.

Нібыта руку, на світанні
Хвалям падайце вясло.
...А помніце, як паўстанне
Усходнія крэсы трасло,

Як Нарач ад гневу кіпела
І як дрыжалі паны,
Як сталі за праўду смела,
За шчасце—бацькі і сыны,

Як Пількаўшчына і Мядзель
Страчалі з Усходу братоў
І крочылі Вы на парадзе
У зарыве ярkіх сцягоў.

І веру будзілі ў народзе
Праўдзівыя Вашы радкі...
Вы чуеце: гімн свабодзе
Спяваюць мае землякі.

У салаўіным палоне
Вы зноў—на бацькоўскай зямлі,
І Нарач плешча ў далоні,
Паклон б'юць жытамі палі.

Вы—сын Нарачанскага краю!
На Нарачы Вы не госць!
Прыедзеце Вы, я знаю,
Зноў у сваю маладосць.

# ПРАРОЧЫЯ СЛОВЫ

У 1933 ГОДЗЕ ў Мінску выйшла дсосыць ёмістая «Хрэстаматыя рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі». Апавяданні, вершы... Шмат імёнаў, у большасці незнаёмых савецкаму чытачу.

І сярод іх адразу ж кінулася ў вочы нячутае, незвычайнае — Максім Танк. Рука міжвольна гартала старонкі, шукала яго вершы. У іх не было ні кроплі сентыментальнасці, плаксівасці, уласцівай ў той ці іншай ступені некаторым паэтам той пары. Суровыя, мужныя вершы.

Хацелася даведацца, хто ж ён, аўтар гэтых вершаў, якое яго сапраўднае прозвішча (думалася, што імя — Максім— нявыдуманае). Але біяграфічных звестак у зборніку не было.

У 1937 годзе лёс звёў мяне з чалавекам, які доўгі час (здаецца, да 1936 года) працаваў у падполлі, там, дзе тады жыў Максім Танк. Невысокі, шчуплы і чорны, як цыган, ён быў стрыманы, пра сябе расказваў скупа. Але і з гэтых скупых расказаў можна было здагадацца, што належаў ён да кіруючых работнікаў Кампартыі Заходняй Беларусі.

Прозвішча яго было знаёмае — Александровіч-Голуб. Апынуўшыся ў Мінску, ён загадваў міжнародным аддзелам у газеце «Рабочий» і выступаў у ёй з аглядными артыкуламі.

— А можаце зваць і так: Александровіч-Голамб, — сказаў ён з прыязнай усмешкай і пачаў чытаць напамяць Адама Міцкевіча і іншых польскіх паэтаў. А пасля пачаў чытаць па-беларуску пра паўстанне нарачанскіх рыбакоў супраць польскай буржуазнай улады.

— А гэтыя вершы чые? — спытаў уражаны Янка Туміловіч, мілы чалавек і добры паэт-маладняковец.

— Максіма Танка.

— Вы, можа, ведаеце яго? — вырвалася ў мяне.

— Трошкі ведаю, — адказаў Александровіч-Голуб стрымана.

І сама гэта стрыманасць сведчыла аб тым, што ён ведае паэта не трошкі, а добра.

— Раскажыце, хто ён такі?

— Як яго па-сапраўднаму завуць?

Аднак стары падпольшчык быў асцярожны і верны правілу канспірацыі, — як ні прасілі мы з Туміловічам, як ні ўпрошвалі другія нашы таварышы.

— Пакуль нельга. Ды і права не маю, хлопцы, — заявіў ён цвёрда.—Але прыйдзе час— і вам стане вядома сапраўднае імя Максіма Танка. І не толькі вам, але і далёка за межамі Беларусі. Вось пабачыце!

Я ўспомніў словы Александровіча - Голуба восенню 1939 года і падумаў: якія яны прарочыя

Успамінаю іх зараз, калі праглядаю тоўстыя і тонкія зборнікі Максіма Танка на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, калі бачу яго імя на старонках «Правды», «Известий» і іншых газет і часопісаў.

Рыгор ХАЦКЕВІЧ.

# ДА СЭРЦАЎ ЛЮДСКІХ

Творчасць народнага паэта Максіма Танка шырока вядома не толькі ў Беларусі. Вершы, паэмы яго на сваёй роднай мове чытаюць сёння ва ўсіх саюзных рэспубліках, а таксама за мяжой. Асобнымі выданнямі кнігі паэта выходзілі ў Расіі і на Украіне, у Літве і Таджыкістане, у Польшчы, Балгарыі... На рускай мове, напрыклад, яны выдаваліся звыш дваццаці разоў! Моцны, трывалы грунт знайшло слова Максіма Танка на зямлі братняй Украіны.

З Украінай Максім Танк звязаны даўно—і сваім творчым лёсам, і сімпатыямі да ўкраінскай культуры і літаратуры, і дружбай са многімі ўкраінскімі пісьменнікамі. Яшчэ ў юнацтве паэт знаёміцца з творчасцю Шаўчэнкі, Франко, Лесі Украінкі, Гаўрылюка... Свабодалюбны пафас іх паэзіі, жаданне вызбавіць родны народ з путаў сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, любоў да бацькаўшчыны зрабілі значны ўплыў на светаразуменне Максіма Танка. Яшчэ да верасня 1939 года паэт перакладае вершы І. Франко «Каваль» («Беларускі летапіс», 1938, № 3) і Т. Шаўчэнкі «...Мне аднолькава, ці буду» і ўрывак з «Гамаліі» («Калоссе», 1939, № 2). Здарылася так, што менавіта на Украіне, у нелегальнай беларускай газеце-аднадзёнцы «На пераломе», што выйшла ў Львове ў 1932 годзе (дарэчы, яна тут жа была канфіскавана паліцыяй), надрукаваны першы, падпісаны псеўданімам «Максім Танк», верш «Заштрайкавалі гіганты коміны». Творы паэта пачынаюць публікаваць некаторыя заходнеўкраінскія часопісы—«Обрії» (1936, ч. 12) і «Назустріч» (1936, № 7—8).

Разам са сталасцю, творчымі набыткамі Максіма Танка расце і яго вядомасць у Заходняй Украіне. Першае ж знаёмства ўкраінскага савецкага чытача з паэзіяй аўтара «Нарачы» адбываецца толькі ў суровым 1943 годзе. У гэтым годзе часопіс «Украіна» публікуе ўрывак з паэмы «Янук Сяліба» — вядомую «Легенду пра музыку». «Хросным бацькам» «украінскага» Танка стаў патрыярх брэтняй літаратуры цудоўны паэт і перакладчык Максім Рыльскі.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Максім Танк, «адзін з самых папулярных паэтаў усёй Савецкай бацькаўшчыны» (Мікола Бажан), становіцца шырокавядомым і на Украіне. Штогод у перыёдыцы, розных альманахах і зборніках друкуецца нямала яго твораў. Асобнымі выданнямі выходзяць вершы і казкі для дзяцей—кнігі «Сярод лясоў над Нёманам» (1955) і «Конь і леў» (1957).

Але, бадай, толькі з выхадам у Кіеве «Выбранага» М. Танка (1959) адкрываецца мажлівасць найбольш грунтоўнага знаёмства з яго разнастайнай творчасцю. Творы паэта пераклалі М. Рыльскі, П. Тычына, А. Малышка, М. Бажан, П. Варанько, Ул. Сасюра і іншыя майстры ўкраінскага мастацкага слова. Яны прыклалі нямала намаганняў для таго, каб украінцы, кажучы словамі Міколы Бажана, здолелі «належным чынам ацаніць той цудоўны скарб, тое багацце чалавечых эмоцый і думак, той жывы і прыгожы водбліскззяючага сэрца Беларусі, які пранізвае паэзію Танка, робіць яе найкаштоўнейшай часткай думак і перажыванняў... беларускага народа». Пэўны недахоп кнігі ў яе стылявай стракатасці, абумоўленай тым, што ў перакладзе твораў прымала ўдзел вялікая група перакладчыкаў. А ў кожнага ж свая творчая манера, свой стыль, свой узровень майстэрства!..

Гэтага недахопу няма ўжо ў кнізе «Мой хлеб надзённы» (1968), якую поўнасцю пераклаў Мікола Нагнібяда (са 186 вершаў толькі пяць перакладзены ў сааўтарстве з Д. Паламарчуком). Гэтая кніга, у адрозненне ад «Выбранага», прапануе чытачу навейшую, сучасную творчасць М. Танка. У яе ўвайшлі вершы з трох апошніх кніг паэта («Мой хлеб надзённы», «Глыток вады», «Перапіска з зямлёй»), а таксама шэрагу часопісных публікацый.

Перакладчык у асноўным дакладна перадае канкрэтна-пачуццёвую і ўмоўна-асацыятыўную вобразнасць М. Танка, разнастайныя страфічныя формы, сілаба-тоніку, белы, вольны верш.

«Выбранае» і «Мой хлеб надзённы» падрыхтавалі добры грунт для публікацыі твораў Максіма Танка ў анталогіі «Беларуская савецкая паэзія», якая ў пачатку гэтага года з'явілася на кніжных паліцах. Складальнікі яе М. Нагнібяда і А. Вялюгін імкнуліся выбраць з творчага набытку Танка самае важкае, характэрнае, прынцыповае. У значнай ступені гэта ім удалося. Са старонак анталогіі беларускі паэт паўстае як бясстрашны рэвалюцыянер, змагар за шчасце народа («Галінка вясны», «Паслухайце, вясна ідзе», «Павязлі цягнікі»), літаратар, вельмі блізкі да паэтыкі народнай песні («У полі вярба», «Песня Яносіка», «У садочку май»), паэт інтэрнацыяналіст, гуманіст («Ave Maria»). А яшчэ—як пясняр светлых бакоў нашай сучаснасці, яе гераічных і легендарных спраў («Партыя», «На камні, жалезе і золаце», «Каб ведалі», «Рамкі і г. д.).

Амаль кожны месяц на старонках украінскіх часопісаў і газет з'яўляюцца новыя пераклады вершаў Максіма Танка, дорачы чытачам добры настрой, прымушаючы разважаць, думаць, робячы іх дабрэйшымі і мудрэйшымі. Несумненна, тыя моцныя ніці, якія яднаюць народнага паэта Беларусі з Украінай, застануцца трывалымі і надалей, назаўсёды.

**Вячаслаў РАГОЙША.**

Заір АЗГУР

# ДРУГУ

Я шчаслівы, што ў нас ёсць такі паэт. У гэты дзень, дзень шасцідзесяцігоддзя, жадаю Максіму Танку новых творчых поспехаў. А таленту і мудрасці яму не пазычаць. Мне заўсёды хочацца чытаць яго вершы і прасіць новых, бо ў іх — пранікнёныя думкі і сардэчныя пачуцці, разнастайнасць паэтычных форм. Цудоўны паэт, які ўслаўляе дабро і прыгажосць, ён іншы раз нагадвае сваімі інвектывамі гнеўнага прарока.

Вялікі паэт, чароўны вершатворца, ён захапляе нас ранішняй свежасцю пачуццяў і дум.

Дарагому другу ў гэты дзень, апрача ста год жыцця і моцнага здароўя, яго ж словамі жадаю: «Каб вечна былі з першабытным прысмакам хлеб, песня, віно і каханне!»

Міхась КАЛАЧЫНСКІ

# СКАРБ СЭРЦА

*Максіму Танку*

Можна не быць
у той хаце драўлянай пры лесе,
якая прытулак
дала яму ў дзень нараджэння,
ніколі не чуць
калыханак сумотных маці,
з якімі ў калысцы
сны навявала сутонне.

Можна не бачыць
аселіц яго малалецтва,
белых прысад,
між якіх ён падаўся ад дому
і вызнаў
бядоцце людзей,
жахлівасць няпраўдь,
хаду на этапах,
прызначаных лёсам суровым.

Можна яшчэ штосьь
не знаць пра яго.
Толькі ледзьве
кнігі,
якім перадаў ён агонь свайго
сэрца,
возьмеш у рукі,
і са старонак ціха павее
ў грудзі
борам смалістым,
дымамі кастроў на начлежжы,
сінечай азёр
і мужнасцю іх працалюбаў.

Зноў ажывуць
канспірацыі, яўкі падполля,
і сонца за кратамі
ў змрочным сырым астрозе,
і воля,
здабытая ў грозным з бядой
змаганні,
і слова на волі—
скарб сэрца, людзям адкрыты.

Стане тады
хата тая пры лесе,
дзе сосны
ў неба імкнуцца,
вышукваючь зорных
мядзведзіц,
такой табе
блізкаю, роднаю,
як і паэту,
голас якога
гучыць на шматмоўнай
планеце.

# ПРЫЗНАННЕ

*Няшмат сустрэнецца ў польскай паэзіі малюнкаў прыроды, якія сваёй прыгажосцю маглі б параўнацца з карцінамі Танка. Яго паэмы «Нарач» і «Журавінавы цвет» ператвараюць красу наднёманскай зямлі ў такую дасканалую паэзію, што ў гэтых адносінах яго можна параўнаць з Міцкевічам без боязі якой-небудзь дыспрапорцыі.*

**Е. ПУТРАМАНТ** (Польшча).

*...Уся яго лірыка цесна звязана з рамантычнай традыцыяй беларускай народнай паэзіі. У апошніх зборніках Танк закранае актуальныя пытанні сучаснасці і асабліва праблемы гуманізму.*

**К. КАСПЕР** (ГДР).

*Што найбольш кідаецца ў вочы ў сучаснай творчасці Танка, гэта небывалае пашырэнне паэтычнага кругагляду і ў сэнсе тэматыкі, і—перш за ўсё — у сэнсе глыбіні эмацыянальнага і інтэлектуальнага зараду паэзіі.*

*Вялікую натхняльную ролю тут адыгралі падарожжы Танка за мяжу—у Амерыку, Кітай і па Заходняй Еўропе. Вершы, прывезеныя з гэтых дарог, асабліва еўрапейскі цыкл, сталі адной з найвыдатнейшых падзей ва ўсёй сучаснай беларускай паэзіі... У іх аўтар мабілізаваў усю сваю паэтычнасць, мастацкую фантазію і вынаходлівасць. Танк умее замяніць спрафанаваную апісальнасць і простолінейнасць сапраўды паэтычным светаўспрыманнем.*

**В. ЖЫДЛІЦКІ** (Чэхаславакія).

*Максіма Танка характарызуе актыўна: ўмяшанне ў надзённае жыццё краіны. Ён услаўляе яе дасягненні, выказвае свае пачуцці да яе. Ён часта звяртаецца да мінулага, але заўсёды актуалізуе ўспаміны. Апошнім часам шмат падарожнічае, што дае яму тэматыку для новых твораў.*

*А павагу і пашану да польскай культуры, сімпатыі да польскага народа ён захаваў з часоў нашай агульнай барацьбы за свабоду, за дэмакратычныя формы жыцця.*

**М. ВОЛЬСКІ** (Польшча).

*Сіла Танкавай лірыкі—у яе прастаце і непасрэднасці, у цеснай сувязі з беларускім фальклорам і ў музычнасці яго вершаў.*

**А. ГЛОБІГ** (ГДР).

Максім ТАНК

# МЫ СТАЛІ ПАРТЫЯЙ

Кожнаму з нас
Не хацелася быць
Коласам адзінокім—
І мы сталі полем жытнёвым,
Якое корміць свет.

Кожнаму з нас
Горка было б узвышацца
Асобнай вяршыняй—
І мы сталі горным кражам,
Які падпірае плячмі небазвод.

Кожнаму з нас
Сумна было б
Адчуваць сябе кропляй дажджу,
А ўсе—сталі мы акіянам,
Які несціхана пяе.

І калі ўсяго гэтага мала было
Нашым вачам і рукам,
Нашым сэрцам і марам—
Мы сталі Партыяй.

# В'ЕТНАМ, В'ЕТНАМ!

В'етнам, В'етнам! Тваё імя
Крывавіць ранай у грудзях,
У нашы сэрцы грукаціць,
Клубіцца дымам у вачах,
Гарыць вінтовачным ствалом
У нашых сціснутых руках.

І хоць між намі сотні рэк
І безліч скал і гор крутых,
Але мы разам дзень і ноч
На ўсіх участках агнявых,
Плячо ў плячо, стаім з табой
Супроць захопнікаў ліхіх.

Іх дні палічаны даўно.
Ад помсты нашай не ўцячы.
Мір пераможа. На плугі
Перакуюцца ўсе мячы.
В'етнам, В'етнам! Праз гром баёў
Мацней свабоды спеў гучыць!

# ДАРОГАЮ ЗАРЫ

Дарогаю зары
Вяртаюся ізноў
У пераклік зязюль,
У перасвіст шпакоў,
У перашум і звон
Разбуджаных крыніц,
У зеляніну дрэў,
У водар медуніц.
Як быццам нешта я
Тут некалі забыў,
Ці песні не дапеў,
Ці мары не дасніў,
Ці спадзяюся, што
Чакае хтось мяне,
Як некалі чакаў
У роднай старане.
Ды сёння мушу ўсім
Напамінаць ізноў:
Сям'і птушынай, што
Я—з іх былых сяброў,
Крыніцам, што ў мяне
Іх кроў звініць, бруіць,
А дрэвам і траве,
Што мне без іх не жыць.

●

Усе рэкі бяруць свой пачатак,
Усе дрэвы сваю свежасць,
Усе хмары свае блісканкі,
Усе вятры свае сілы—з крыніц,
Толькі песні рака—з сэрца.

●

Ёсць на маёй радзіме дрэвы:
Яны не толькі ад вятроў,
Птушыных крыл і іх напеваў,
Грымотных жнівеньскіх дажджоў,
Ад глыбіні, ад вышыні,
А нат звіняць ад цішыні.

Яны таксама і мяне
Вучылі некалі звінець.

**Муса ГАЛІ**

Башкірыя

●

Калі ты шчаслівы,
Не крычы пра гэта,
Да ахрыпу у горле не гарлань.
Не уся яшчэ азорана планета—
На прыгнечаных парою глянь.
Калі ты шчаслівы —
Хай адчуе сэрца
Іншых боль.
А ты вазьмі з сабой
Холад тых,
што прагнуць абагрэцца
У начной пустэльні снегавой.
Калі ты шчаслівы —
сэрца хай адчуе,
Зразумее, свет зладкован так:
У багатых сонца
днюе і начуе,—
Век яго не бачыць
працаўнік-бядак.
Калі ты шчаслівы —
дык скарынку хлеба
Ад братоў галодных не бяры.
Зорку прывітай,
што ўспыхне ў небе,
Не забудзь яе патухшае
сястры.
Сэнс жыцця —
не ў пекнасці адзення.
Колеры
змяняе час свае.
Сябра не кідай,
калі гусцеюць цені,
Калі ў целе сілы нестае.
На завалы ад людзей
не зачыняйся—
Хай ідуць і днём, і ўначы!
Калі ты шчаслівы,
дык пра шчасце
Да ахрыпу ў горле не крычы...

Пераклаў І. КАЛЕСНІК.

**Алаберды ХАІДАЎ**

Туркменія

## ЗНАХОДЖУ Я ПЕСНЮ

— Адкуль свае песні бярэш ты,
Якая парода тых скал?
— Скажы, дзе знайшоў іх
нарэшце,
Скажы, а ці доўга шукаў?

— Скажы, дзе алмазы жывыя
Адзін ты, шчаслівы, знайшоў?..
Я чую пытанні такія,
Калі сустракаю сяброў...

Калі з пастухамі на шкурах
Начую, — ледзь дзень устае,
Пры зыркім агні ў Кара-Кумах
Знаходжу я песні свае.

Калі заўважаю ў блакіце,
Як горад расце малады,
У сценах (пільней паглядзіце)
Знаходжу я песні заўжды.

Калі перад пускам канала
З рабочай брыгадай стаю,
Між бруссяў, цвікоў
і канатаў, —
Знаходжу я песню сваю.

Калі я па радыё чую,
Як з нашай Савецкай Зямлі
Дарогу бяруць незямную
Касмічныя караблі,

Адкінуўшы дробязі быту, —
Прызнаюся ўсім, не таю:
На іхніх далёкіх арбітах
Знаходжу я песню сваю.

Пераклаў Ю. Свірка.

*ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ*

**Леанід МАРТЫНАЎ**

Расія

## ВОБЛАКІ

Воблакі
Усё плывуць.

Хмаркі нябесныя,
Нібы карункі, ўзорныя,
Неразвонныя.
Гэта —
Мясцовыя,
Міжраённыя.

А вось —
Абласныя,
Рэспубліканскія,
Усесаюзныя.

І ёсць воблакі цяжкія,
грузныя —
Заакіянскія.
Пасоўваюцца здалёк,
Быццам нейкія натоўпы
вадародныя.
Гэта ўжо не воблакі, браток,
Гэта ўжо хмары
Міжнародныя.

Можа,
Ёсць там цэлая фабрыка хмар.
Цікава было б высветліць —
Які яго твар,
Гэтага самага фабрыканта
хмар?

Не! Напэўна,
Гэта не толькі адзін
фабрыкант.
Там — цэлыя штаты
нязмерныя,
Праўдзівей — канцэрны.

Але сёння
Ніякай заслоне
Не затуманіць сусвету:
Прабівае яе
З імклівасцю касмічнай —
Маёй зямлі крынічнай
Ракета!

Пераклала Э. АГНЯЦВЕТ.

**Павел БОЦУ**

Малдавія

## БУДОЎЛЯ

Руйную ўсё,
што аджыло, сатлела...
Капаю ў доле свежы катлаван.
Мне сонца слепіць вочы.
Сёння смела
Дарогу ў заўтра пракладаю
вам.

Тапчу нагамі
смецце,
друз
і трэскі,
Расце падмурак пад маёй
рукой.
Я ўзводжу новы дом.
Мне вельмі трэба,
Каб зоркі ў дом плылі з усіх
бакоў.

І не здзіўляйцеся,
калі сябе самога
Я замурую ў сценах тых
крутых.
Зрабіў я — мала,
А павінен — многа.
Будоўля—абавязак мой святы.

Таму людзям такі будую дом,
Дзе будзе ўдосталь
радасці і сонца.
Няхай будоўля цягнецца
бясконца
Пад холадам,
Пад ветрам
І дажджом!

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.



В. Астаф'еў. Партрэт работы Я. Шыронава.

**Віктар АСТАФ'ЕЎ**




АПАВЯДАННЕ

—СТАІЦЬ?—спытаў сержант Даніла ў разведчыка Ванягіна, які дзяжурыў ля стэрэатрубы.

— Стаіць,—глуха адказаў Ванягін, саступіўшы месца на чахле ад стэрэатрубы сержанту Данілу—камандзіру аддзялення разведкі.

Аддзялённы доўга і засяроджана аглядаў наваколле, потым затрымаў пільныя вочы прыбора на адным месцы.

— Гэта ж трэба!—выгукнуў ён, раздражнёна ляпаючы сябе па кішэнях у пошуках курыва.— Тры дні стаіць!—І ў ягоным голасе адчуваўся жаль.

Ванягін уздыхнуў.

— Тры дні...—і даў яму прыкурыць.

Яны курылі, люта зацягваючыся горкаю махрою, і маўчалі. Але і так разумелі адзін аднаго, бо думалі пра адно і тое ж, хоць самі і розніліся. Сержант Даніла быў у гадах. Сярод маладых, вострых на слова і спрытных разведчыкаў ён выглядаў чалавекам крыху сарамлівым, увесь час адчуваў сябе ніякавата, таму што займаўся не сваёю справаю, і два разы на год прасіў, каб яго перавялі на звычайную службу, да звычайных пехацінцаў.

Ванягін быў з рабочых, спецыяліст па шліфоўцы паравозных бронзавых укладышаў. На сержанта Данілу ён быў падобен толькі валасамі—абодва рыжыя, ды яшчэ тым, што ў час працы не любіў размаўляць. Да гэтага яго прывучыла далікатная шліфавальная справа.

Менавіта ён першы і назваў сержанта дзядзькам Данілам, за што атрымаў спагнанне ад фарсістага камбата і паўдня спаў без абмотак у глыбокай шчыліне, якую называлі «губою»; туды дысцыплінаваныя салдаты прынеслі для яго ахапак саломы.

Ці то спадабалася Ванягіну «на губе», ці то быў ён чалавек упарты, але пакаранне не пайшло яму на карысць, і пытанне чынашанавання ён вырашыў па-свойму: пачаў называць аддзялённага сержантам Данілам, званне гэтае разышлося па ўсім палку.

І тут ужо ні камбат, ні хто іншы не меў сілы што-небудзь зрабіць.

Цыгарка абпаліла пазногаць, і сержант Даніла кінуў яе пад абцас.

— Як ты лічыш? — хрыпастым голасам спытаў ён і адкашляўся.— Як, кажу, думаеш, доўга ён яшчэ? —і кінуўся галавою ў бок нейтральнай паласы.

— Хто яго ведае!—паціснуў плячыма Ванягін.—Сярод іх трапляюцца вельмі жывучыя.

Сержант Даніла на нейкую хвілю прыпаў да стэрэатрубы і зноў палез па капшук.

— Усё яшчэ стаіць, усё стаіць...

На нейтральнай паласе сярод бародаўчатых, засохлых купін вось ужо трэці дзень стаяў паранены конь. Стаяў нерухома, з нізка апушчанай галавой. З абвіслай, напаўразяўленай пысы яго сцякала крывавая пена. Калі на яго глядзелі ў стэрэатрубу, ён амаль ушчыльную набліжаўся да акуляраў, і тады ў вялікім воку яго можна было заўважыць пякучы боль, тугу і недаўменне.

Зямля падтрымлівала каня. Тая зямля, на якую ён ступіў калісьці белалобым жарэбчыкам, вітаючы навакольны свет радасным, пераліўчатым галаском. Калі ногі ў жарэбчыка падужэлі і струменьчыкамі пацякла грыва па тонкай шыі, ён пачаў пакусваць матчын крыж і ганяць маладых кабыліц. Калі ён вырас, яго пачалі запрагаць. Ён кінуўся на дыбкі і, супраціўляючыся, загаласіў, калі ўпершыню завялі яго ў аглоблі. Але ў аглоблях, ды яшчэ з цуглямі ў роце цяжка пратэставаць, і ён пабег, а потым пабрыў па бальшаку, які знікаў удалечыні за небасхіламі. З таго часу яму заўсёды здавалася, што там, на краі зямлі, канец дарозе, і ён давязе цяжкую паклажу і ўбачыць штосьці нязнанае.

Выпадалі дні, нават цэлыя тыдні, калі спутаную каняку адпускалі на волю, і яна клыпала адна сабе па роснай траве, у вячэрнім халадку і слухала драчовы голас.

Конюх вадзіў яе на вадапой да рэчкі, і яна доўга, са смакам цягнула ваду пысаю, а чалавек тонка падсвістваў ёй, відаць, мяркуючы, што пад ціхі лагодны посвіст ёй смачней п'ецца.

# КНІГІ БРАТНІХ НАРОДАЎ У АРМЕЙСКІМ СТРАІ

Радкі гэтыя пішуцца ў бібліятэцы. Ідуць палёты, і наваколле напоўнена зычным гулам рэактыўных турбін.

Кніга займае ганаровае месца ў жыцці воінаў. І, бадай, нідзе не сустрэнеш так яскрава выяўленага братэрства літаратур і іх чытачоў, як у воінскай бібліятэцы.

На паліцах нашай бібліятэкі — творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна... Дарэчы, не так даўно ў бібліятэцы было свята — адзначаўся юбілей Янкі Купалы. Гучалі яго вершы на беларускай і рускай мовах, дэкламавалі творы і іншых беларускіх паэтаў. Уважлівай і ўдзячнай аказалася аўдыторыя — маладыя юнакі-воіны — азербайджанцы і латышы, узбекі і грузіны... Нібы дома ў гасцях пабывалі воіны-беларусы, і, разам з тым, быццам прынялі гасцей з розных куткоў неабсяжнай краіны.

І свята гэта было не першым. Традыцыйнымі сталі тэматычныя вечары цыклу «Салдат вядзе расказ аб Радзіме сваёй». Гэта невялікія расказы таго або іншага воіна аб родным кутку, рэспубліцы, краю. Калі прыйшла чарга Беларусі, у зале гучалі беларускія словы і мелодыі, былі выстаўлены творы беларускіх літаратараў.

Разам з бібліятэкаркай Верай Аляксандраўнай Пікалёвай мы гартаем карткі чытачоў. Як шмат тут твораў беларускай літаратуры! «Векапомныя дні» Міхася Лынькова... Вокладка амаль працёртая ад многіх рук. «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна... Яе прачыталі, бадай, усе. Зборнікі вершаў Петруся Броўкі...

— Чымсьці падобны на нашага Расула Гамзатава, — дзеліцца думкамі радавы Муса Вагапаў. — Прыемныя вершы, хвалюючыя...

Янка Брыль, «Свет далёкі і блізкі»... З гэтай кнігай нядаўна знаёміўся сяржант Хасан Сары-Тэрзі з Паўночнага Каўказа.

— Усхвалявала сваёй жыццёвай мудрасцю, светлай летуценнасцю, — гаворыць Хасан пра кнігу. — А яшчэ вельмі захацелася пабыць у Беларусі.

А. ПАЛОНСКІ, яфрэйтар.

*Адзін з удзельнікаў свята братніх літаратур на нашай зямлі, вядомы таджыкскі паэт Абдужабор Кахоры прыехаў на Беларусь значна раней за іншых — яго цягнулі сюды ўспаміны. У 1943—1944 гадах ён вызваляў Віцебшчыну, быў цяжка паранены. Цяпер Абдужабору Кахоры хочацца прайсці шляхамі маладосці, паглядзець, як выглядае сёння тая зямля, за якую ён праліў сваю кроў.*

*І хочацца напісаць пра яе, зямлю беларускую — радком публіцыстычным і паэтычным, расказаць сваім землякам-таджыкам пра той край, які стаў другой бацькаўшчынай.*

*І яшчэ адна мэта ў нашага друга. Ён—дырэктар выдавецтва «Ірфон» («Асвета»). Выдавецтва выпускае больш за 500 назваў кніг у год, прыкладна—3500 аркушаў. Штодня выходзіць дзве-тры кнігі. І сярод іх—творы беларускіх аўтараў. І нямала. «Можа, таму,—усміхаецца Абдужабор Кахоры,—што кірую выдавецтвам я». Вялікімі тыражамі на таджыкскай мове выйшлі творы Я. Купалы і Я. Коласа, А. Куляшова і П. Броўкі, М. Танка і І. Шамякіна, Я. Маўра і П. Кавалёва і інш. Выпушчаны зборнікі беларускай прозы і паэзіі. На чарзе—кнігі І. Мележа і Р. Барадуліна, В. Быкава, П. Панчанкі і Я. Брыля.*

*Вось і хоча Абдужабор Кахоры яшчэ больш умацаваць сувязі паміж пісьменніцкімі арганізацыямі Беларусі і Таджыкістана, паміж выдавецтвамі — для агульнай карысці.*

*Наш таджыкскі госць пакінуў у рэдакцыі свае вершы. Прапануем іх вам у перакладзе на беларускую мову.*

**Абдужабор КАХОРЫ**

Таджыкістан



## ПАМЯЦЬ

*Беларускія партызаны помняць юнака, якога звалі «Коля-таджык».*

Бярозе ўспамінаецца вайна,
Стаіць у лесе сумная яна
І просіць вецер па вясне штогод:
«Злятай, мой дружа вольны, на Усход,
Таджыка-Колі адшукай там след
І партызанскі перадай прывет, —
Бяроза хіліць нізка галаву, —
Ён тут валіўся ў стоме на траву
І закрывала ласкаю матуль
Яго ад непагоды і ад куль.
Я ў бой яго праводзіла адна,
Чакала ад змяркання да відна.
Ён пасля бою сок мой піць прывык,
Бярозы беларускай сын — таджык»,

Далёка памяць аб вайне вядзе.
Сустрэў я сокала ў старым гняздзе,
Ён маладога сокала прасіў:
«Для падарожжа ў цябе хопіць сіл,
Замест мяне ты злётай на Усход,
Удачы табе ў смелы пералёт!
Таджыка-партызана адшукай,
Скажы, што шле яму прывет наш край.
Зямлю ён гэту вызваляў з бяды,
Ляці з паклонам, сокал малады!»

Ішоў па лесе — і аднекуль стогн —
Старая гільза, стрэляны патрон
Расказвае пра партызанскі бой:
«Ляжаў тут ранены таджык-герой,
Крывёй сыходзіў, паміраў адзін,
Бяроза лісце скінула з галін,
А ён маўчаў, глядзеў удалячынь,
Быў горды сокал на яго плячы.

*ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ*

Збярог для ворага апошні свой патрон,
Маёю куляй адбіваўся ён...»

Сябры мае! Наш дом — Таджыкістан,
Ты чуеш, беларускі партызан,
Зямляк, і сёння ты герой — джыгіт!
Пражыві той памяці граніт!

Пераклала В. ВЯРБА.

## ГОРДЫЯ ВЯРШЫНІ

Кожны славіць па-свойму стараўся,
Ды сышліся ў адным вершатворцы,—
Што прыгожыя вы, як гаранкі,
Непахісныя вы, нібы горцы.

З вамі першымі рада вітацца
Сонца—промні вам шле залатыя,
Серабрацца, чароўна іскрацца
Вашы скроні, ад часу сівыя.

З вас свой бег пачынаюць патокі
І ў даліны імчацца па схілах,
Каб рака сваім лекавым сокам
І сады і палеткі паіла.

З вышыні любавацца вам гожа,
Як вясною зямля ажывае,
Свой дыван каляровы, прыгожы
Вам пад ногі яна рассцілае.
Толькі гордымі дужа не будзьце:
Ці ж даліны вось так бы квітнелі,
Каб адважныя, мужныя людзі
Пакараць гордых рэчак не ўмелі?

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.

Мяняліся грузы—будаўнічы лес, дровы, сена, цэгла, мяхі, вадавозная бочка, а дарозе не было канца. Яна вяла каняку і вяла і вось прывяла туды, дзе грукат, мітусня, крык.

Напачатку конь стрыг вушамі, адыходзіў назад і хроп, рваў ад страху пастронкі. Яго то гнялі на ўвесь дух людзі з поўнымі жаху вачыма, то прымушалі ісці павольна, ступою, супакойваючы доўгай, як і сама дарога, песняй.

Аднойчы яго запрэглі ў калёсы разам з двума маладымі, гарачымі жарабцамі. Іх гналі проста па сланечніку, кукурузе.

Было дымна і спякотна.

Маладыя коні беглі па баках і на хаду хапалі сакавітыя кукурузныя парасткі. Яны жавалі кукурузу і глыталі яе, захлынаючыся слінаю. А каняка не магла. Ногі слаблі, заплcraліся, рабіліся непаслухмяныя.

Той жарабец, што бег справа, раптам упаў і ўзняў нагамі пыл, а другі, гайдаючыся з боку на бок і цяжка дыхаючы, выварочваў мяккія ноздры, з якіх фантанамі біла кроў. І гэты конь бразнуўся вобзем і пацягнуў за сабою старую каняку. Каняка шырэй расставіла ногі, трымалася з апошніх сіл. Яе душыла вупраж, але яна не хацела падаць.

З калёс саскочыў чалавек, выхапіў нож, абрэзаў пастронкі. Дыхаць зрабілася лягчэй. Чалавек пагладзіў каняку па рэбрах, якія абадамі тырчэлі на баках.

— Ну, мілы, толькі на цябе і ўся надзея, выручай!

І стары конь, відаць, зразумеў чалавека, напружыўся і пацягнуў калёсы падалей ад грукату, мітусні і енку. Там, дзе трапляліся канавы або варонкі, конь ступаў асцярожна, аднак калёсы ўсё роўна нахіляліся, і з іх зрываліся стогны і лаянка. Нарэшце конь угледзеў лясную сцяжынку і збочыў на яе.

Каля палатак з чырвонымі крыжамі конь спыніўся, расслабіў мускулы і ў задуменні апусціў галаву.

Раненых знялі і кудысьці панеслі. Не чакаючы, калі яго перацягнуць пугаю і прагоняць, конь адышоў убок і напалову з'едзенымі зубамі пачаў выстрыгаць з патаптаных кустоў стары калючы пырнік.

Неўзабаве і яго зачапіла. Моцна стукнула ў бок. Ён быў кінуўся наперад, але зрушыць калёсаў ужо не змог. Яшчэ раз тузануў, нібыта не паверыў у тое, што адбылося, і адчуў кволасць у нагах і пякучы боль пад сэрцам.

Гэта здарылася на сухім балоце. Тут яшчэ з вясны засталіся адбіткі птушыных слядоў і рос невялічкі пучок лабазніку. З гарачкі ён з'еў бы яго, па даўняй звычцы з толкам скарыстаўшы кароткі прыпынак, але цяпер белы пушысты цвет лабазніку толькі абнюхаў.

Палаяў, палаяў яго з калёс кульгавы салдат, потым, крэкчучы, абышоў вакол, паківаў галавою. Сказаў: «Калі гэта толькі вайна скончыцца?!»— і зняў з каня хамут.

Адвячоркам ён прывёў другога каня, надзеў на яго хамут. Потнік на хамуце быў зашмальцаваны да бляску шыяй старой канякі. «Адваяваўся, бедалага!»—ціха прамовіў чалавек і пайшоў, паляпаўшы каня на развітанне па худой спіне.

Гэтак ён і астаўся ў полі адзін, усімі пакінуты, нікому непатрэбны. Пах лабазніку казытаў у ноздрах. Яму мроіўся лясны халадок, неспакойнае мора аўсу, якога ён даўно ўжо не еў уволю.

Да самае ночы ён яшчэ нечага чакаў, потым, сутаргава калоцячыся, нібы стрыножаны, падаўся невядома куды. Яму хацелася да людзей, але ўсюды была беспрасветная цемра, вочы таксама засцілаў морак. Страціўшы апошнія сілы, ён спыніўся. Конь не заіржаў, а толькі штосьці ціха прашамацеў губамі.

Ніхто не азваўся, ніхто не прыйшоў на яго заклік.

І гэтак вось, нямым дакорам, стаяў ён паміж двума варожымі светамі, у самым цэнтры вайны. Ён быў народжаны для працы, і ён працаваў усё жыццё на людзей. А яны стрэлілі па ім з тае зброі, якую зрабілі для сябе. Ён хацеў аднаго—жыць! Ён быццам ведаў, што калі паваліцца, дык больш ужо ніколі не падымецца і не пабачыць таго бальшака, які клікаў яго наперад і штосьці абяцаў...

Сержант Даніла яшчэ раз кінуў цыгарку пад абцас і яшчэ раз паглядзеў у стэрэатрубу, мабыць, на нешта спадзеючыся.

— Нават фашысты, і тыя не страляюць па ім. Параніць паранілі, а...—ён апусціў галаву і пасля доўгага маўчання прызнаўся:—Хацеў сам, ды рука не падымаецца... Сяляне біць каня могуць лейцамі ці пугаю, але забіваць—не, таму што ён, конь, працаўнік.

Гэтак доўга і гэтак няскладна ён яшчэ ніколі і ні з кім не размаўляў.

— Вядома, вядома,—быццам нічога не разумеючы, заспяшаўся Ванягін.—Без каня ў нас нікуды.—І змоўк, таму што сержант Даніла ўзняў галаву і пільна паглядзеў на яго. Ён мог бы загадаць Ванягіну, але не загадваў.

Ванягін не вытрымаў позірку сержанта і апусціў вочы. Ягоны твар адразу зрабіўся вінаватым, як у малога якога гарэзніка.

— Хутка змену прышлю,—буркнуў аддзялённы і нырнуў з ячэйкі ў траншэю.

Ванягін чуў, як асыпалася зямля з бруствера. Траншэі для сержанта Данілы заўсёды былі вузкія. «Дзякуй богу»,—з палёгкаю падумаў Ванягін, калі сержантавы крокі сціхлі і стала вядома, што аддзялённы больш не вернецца.

Яшчэ ніколі так пакутліва не цягнуўся час на дзяжурстве, як у гэтыя тры дні.

Зменшчык, Яшка Галавухін, які паспеў пабыць у варожым тыле з дэсантам і які лічыў, што яму цяпер нічога не страшна, з шумам уваліўся ў ячэйку.

— Артпрывітанне назіральніку! Дзяжурым? Шмат кропак засек?

— Адну.

— Мала.

Ён, не прысаджваючыся, прыпаў да акуляраў стэрэатрубы, пакруціў колцы і засмяяўся.

— Вось гэта я разумею—савецкі конь! Стаіць на вачах у фашыстаў і даводзіць сваю непахіснасць. Калі, маўляў, і памру, дык стоячы!..

— Ну, ты, званар!—нечакана замахнуўся на яго Ванягін.

— Ты чаго?—адскочыў Яшка ад ашалелага раптам Ванягіна.

— Нічога!—гаркнуў Ванягін і, падхапіўшы карабін, выскачыў з акопчыка.

Паўзці было цяжка—вакол ніякіх прыкрыццяў. Ванягін як мага бліжэй туліўся да зямлі, потым зразумеў, што гэта бескарысна, падняўся і пайшоў нетаропка і нават неяк задумліва, нібы на пагулянцы.

— Скосяць! Вар'ят!—закрычаў Яшка, крыху супакоіўшыся.

Але Ванягін дайшоў да каня, узняў карабін і, прыцэліўшыся, стрэліў яму ў галаву.

Старая каняка пахіснулася, вузлаватыя, збітыя калені яе падагнуліся, і яна павалілася на дол. Сутарга прабегла па шыі да задніх ног канякі, яна выпрасталася, глыбока і з палёгкаю ўздыхнуўшы ў апошні раз...

Ванягін са злосцю адкінуў гарачую гільзу і падаўся назад.

Конь той сніцца Ванягіну па сённяшні дзень...

Пераклаў Л. САЛАВЕЙ.

50 год утварэння СССР

Цырк

# КВЕТКІ НА АРЭНЕ

Сюды, да святочна ўпрыгожанага велічнага гмаху цырка, зноў ідуць і ідуць тысячы гарачых прыхільнікаў сілы, харaства, вынаходлівасці, таго мастацтва, дзе зліліся ў адно спорт і сцэна, атлетыка і харэаграфія, дрэсіроўка і псіхалагічны разлік. На афішы — праграма, падрыхтаваная да 50-годдзя ўтварэння СССР.

Сюды, на мінскую арэну, прывезлі маляўнічыя і смелыя нумары артысты братніх рэспублік. І кожны з нумароў гледачы, якім пашчасціла набыць білеты на першыя прадстаўленні, сустракаюць дружнымі апладысментамі. Малыя і старыя, рабочыя мінскіх заводаў і калгаснікі з раёнаў, студэнты і школьнікі захапляюцца бліскучым выкананнем самых складаных трукаў, майстэрствам гімнастаў і акрабатаў, імклівым каскадам розных малюнкаў джыгітоўкі, дасціпнай эксцэнтрыкай... У касцюмах, у мелодыях аркестра, у тэмпераменце, з якім выступаюць на манежы госці, адчуваецца нацыянальная своеасаблівасць мастацтва — тут гарачы напал прадстаўнікоў закаўказскіх народаў, Азербайджана і Грузіі, Асеціі і Дагестана, тут і гарэзлівы ўкраінскі гумар, якім «падперчаны» кожны складаны трук, тут і засяроджанасць літоўскага асілка, тут і непаўторная лёгкасць прадстаўнікоў кіргізскага цырка... На арэне — вясёлка фарбаў, парад вынаходлівасці, дэманстрацыя сілы і спрыту.

У антракце, калі пад купалам цырка яшчэ аціхала рэха апладысментаў, наш карэспандэнт А. Мацкевіч, атрымаўшы дазвол, гутарыў з удзельнікамі гэтай цікавай і разнастайнай праграмы. Ніжэй друкуюцца выказванні некаторых з гасцей.

**Ігар БАЙКОЎ, рэжысёр** (Масква):

— Цыркавым мастацтвам займаюся гадоў восем-дзесяць. Летась скончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва імя А. Луначарскага.

У Мінску бываю часта. Раней я прыязджаў сюды як акцёр. Цяпер запрошаны ў якасці рэжысёра. Гэта прыемна і разам з тым адказна. Наогул, цыркавая рэжысура знаходзіцца ў стадыі станаўлення. Майстры савецкай арэны выступаюць у гэтай галіне смелымі творчымі шукальнікамі. Вось і прадстаўленне «Слаўся, Айчына!» — прыклад такога пошуку.

Справа ў тым, што ў праграме, ажыццёўленай Ул. Арловым па яго сцэнарыі і прысвечанай 50-годдзю СССР, заняты артысты розных рэспублік. Мы і ставілі сваёй мэтай паказаць буйныя дасягненні цыркавога мастацтва ўсіх савецкіх народаў.

Ці ўдалося дасягнуць яе? На гэта адказваюць гледачы.

**Валянцін ДЗІКУЛЬ, выканаўца атлетычнага нумара** (Літва):

— Я ў Мінск прыехаў упершыню, хоць літоўцы і беларусы — суседзі. Думаю, што нашы сувязі будуць узмацняцца, бо ў розныя часы і на розных манежах цыркачы абедзвюх рэспублік выступаюць вельмі зладжана.

У цырку, як вы ведаеце, мой галоўны занятак — работа з цяжарам. Скажам, вага адной гіры — шэсцьдзесят кілаграмаў, аднаго шара — дваццаць тры кілаграмы. За 10—12 мінут выступлення «перакачваю» звыш дзесяці тон. Добра, што гледачы не ведаюць пра гэта. Інакш яны спачувалі б мне, а гэта ў цырку, мабыць, непатрэбная рэакцыя...

У прадстаўленні, якім мы пачалі гастролі ў Мінску, ёсць мой нумар, так званы «Барцоўскі мост». Якое ўражанне выклічуць мае выступленні — меркаваць не мне, а вам, мінчанам. Стараюся іх выконваць «лёгка»...

**Георгій АГДГАМЕЛАШВІЛІ, гімнаст, заслужаны артыст Грузінскай ССР:**

— У Беларусі выступаў неаднаразова. Выязджаў таксама ў сацыялістычныя краіны.

Выступленні ў Мінску заўсёды радуюць мяне. Я адчуваю тут сябе, як дома. Чаму? Вашы гледачы ведаюць цыркавое мастацтва і ўспрымаюць сапраўды вартае захаплення з паўднёвым тэмпераментам. Часам здаецца: ты — у Тбілісі.

Шмат чуў, чытаў, глядзеў фільмы і спектаклі пра вашу рэспубліку, асабліва пра подзвіг беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Мне, прадстаўніку старэйшага пакалення, давялося бачыць, як мы ад цяжкасцей ваеннага часу пера-







**На здымках:**
**Дагестанскія акрабаты Абакаравы.**
**Буфанадныя клоўны Л. Зіноўеў і В. Касцярэнка.**
**Сунгуравы — беларускія акрабаты з бочкамі.**
**Клоун Яўгеній Майхроўскі.**
**Літоўскі асілак В. Дзікуль.**
**В. Дзянісаў — рускі наезнік.**
**Паветраны семафор — сёстры Аўдзеевы.**

Фота М. МІНКОВІЧА.



**Канцэрт самадзейнасці.**

# ЛІСТРЫГОНЫ ВОСТРАВА

...НЕВЯЛІКІ, тыпу сярэдняга сейнера, з умацаваным на палубе пад'ёмным кранам, «Кайяк» стаяў у канцы прычалаў. У адзінага на палубе чалавека пытаюся, дзе знайсці капітана Оада. Чалавек адрэкамендаваўся:

— Капітан Оад...

Падаю капітану рэкамендацыйную запіску з газеты. Атрымліваю лаканічны адказ:

— Калі ласка, у 16.00 адыходзім...

...З-за хмар выглянула сонца. Асвятліла асфальтаваны вільготны пірс. Пад'ехала гружаная свежаю салакаю машына. І раптам чайкі атакавалі машыну. Яны пікіравалі на скрынкі з рыбаю, прагна, на ляту, глыналі салаку, потым зноў пачыналі пікіраваць.

Адшвартаваліся мы са спазненнем на паўгадзіны — чакалі рыбакоў-ветэранаў на чале з навуковым супрацоўнікам Эстонскага Дзяржаўнага марскога музея, ціхім маладым чалавекам Рэйнам Юр'евічам Орасам.

Паспелі к адыходу «Кайяка» і некалькі хлопцаў з Кіхну. Працуюць яны ў Пярну, а на выхадны «папутнымі» плывуць дахаты на востраў.

Мінулі прычалы порта, пясчаную касу. Вада за бортам хутка перамяніла свой рачны фіялетава-руды колер на светла-зялёны, марскі. «Кайяк» дабавіў вузлоў і захістаўся з носа на кіль.

Капітан Оад, як і належыць, стаяў на мосціку, вёў сейнер, а штурманы і рулявыя мяняліся цераз кожныя мінут пятнаццаць — гэта былі, аказваецца, па-святочнаму апранутыя ветэраны...

Некаторы час мы бачылі толькі мора і неба. Ад Пярну да Кіхну — кіламетраў паўсотні. Пасля хтосьці з ветэранаў гучна абвясціў:

— Зямля!.. Зямля!..

Але я не скора яшчэ ўбачыў зямлю. Марудна падымаўся з вады гэты востраў з масівамі дрэў і кустоў, дамамі са шпакоўнямі, гонкімі соснамі. І, нарэшце, стаў відаць закінуты далёка ў мора шэры, каменны хрыбет мола.

...Цяпер я ведаў, што невялікі востраў Кіхну быў вядомы здаўна. Але па-сапраўднаму праславіў яго Юхан Смуул, калі напісаў сваю п'есу «Дзікі капітан», дзе галоўны герой — Кіхну Йен — паходзіць якраз з гэтага вострава.

На Кіхну абсалютная большасць працаздольных мужчын заняты толькі рыбным промыслам і перапрацоўкай рыбы. А мясцовы калгас «Савецкі партызан» прызнаны сярод рыбалавецкіх калгасаў рэспублікі адным з лепшых.

Трэба сказаць, што капітанаў на востраў Кіхну не запрашаюць. Тутэйшыя хлопцы, скончыўшы мараходныя вучылішчы, ходзяць і ў Балтыку, і ў Паўночную Атлантыку...

Увайшоўшы ў бухту, «Кайяк» збавіў ход. Набліжаўся пірс.

Калі «Кайяк» прышвартаваўся, гасцей сустракаў намеснік старшыні мясцовага калгаса Ян Вальм.

Ветэранаў разабралі па дамах — у двухмесным нумары невялікай гасцініцы я аказаўся адзін.

Гасцініца на Кіхну свая, калгасная. Будавалі яе за калгасныя сродкі. Між іншым — па праекце дырэктара краязнаўчага музея ў Пярну, мастацтвазнаўцы Амара Вольмера.

Аднапавярховы будынак гасцініцы цудоўна ўпісаўся ў пясчаны пагорак пад соснамі, з якіх ні адна не пацярпела ў часе забудовы.

У гасцініцы, апрача дванаццаці нумароў, двух холаў, кафэ, размяшчаецца... краязнаўчы музей!..

Тут на невялікай карце-схеме, стылізаванай пад сярэдневяковую, удакладняеш, што востраў мае шырыню ў тры з палавінаю кіламетры, даўжыню — сем. На востраве — сем вёсачак, цэркаўка і славуты, пабудаваны больш за сто гадоў назад, маяк Кіхну... Славуты востраў яшчэ і саматканымі жаночымі апраткамі, якія жанчыны носяць і ў будні. У расфарбоўцы гэтых апратак пераважаюць чорныя і сінія колеры. А ў святочных уборах — вясёлкавыя пералівы чырвонага, белага, блакітнага і зялёнага.

Я пабачыў гэтыя ўборы на жанчынах, якія касілі і збіралі сена. Так, так! На Кіхну раскіданыя між лясоў лужкі косяць, як правіла, жанчыны. Косяць кароткімі косамі з дзвюма ручкамі. Мужчыны на гэты конт жартуюць: маўляў, ім няма дзе разгарнуцца!..

Разгледзеўшы на свяце рыбака ўборы жанчын Кіхну, я пераканаўся, што фасонам і расфарбоўкаю яны нагадваюць адзенне, якое носяць у нас на Беларусі ў паўднёвым Палессі.

...У памяшканнях гасцініцы ўсюды — пісаныя маслам пейзажы: маляўнічыя куткі вострава. Парослыя чаротам і густа «засеяныя» валунамі дробныя бухтачкі. Нізка скошаныя лужкі, на якіх сохнуць фіялетавыя і зялёныя рыбалоўныя сеткі. Дзюны, парослыя соснамі. Тут жа яркія «рыбныя» нацюрморты: на груба скалочаным стале жоўта-зялёныя шчупакі, паласатыя акуні, а на сыпкім пяску мудрагелістымі ўзорамі раскіданы блакітныя рыбкі, у якіх няцяжка прызнаць славутую салаку Кіхну.

Падпісваецца мастак чытэльна «М. Тэльванд».

Прыемнай нечаканасцю было даведацца, што Мікхель Тэльванд жыве на Кіхну, працуе на судне механікам.

На самым відным месцы ў кафэ — падноўлены выратавальны круг з выразным надпісам «Рок Сіці». Так называлася апошняе судна, на якім плаваў і загінуў, не пакінуўшы патоплага карабля, легендарны капітан Йен. Гэта ён, калі ўсумніліся ў яго здольнасцях, паколькі не меў адукацыі, дайшоў да Пецярбурга і бліскуча вытрымаў экзамен, атрымаўшы атэстат, які даваў яму афіцыйнае права на ваджэнне караблёў па ўсіх морах і акіянах свету.

ходзілі да мірнага жыцця. А такое жыццё без цырка нельга ўявіць сабе. І поспех нашай праграмы — яскравае пацверджанне таму...

**Віктар СУНГУРАЎ, акрабат** (Беларусь):

— Мне выпаў гонар прадстаўляць у святочнай праграме беларускіх майстроў цырка. Прыемна, што «гаспадары арэны» зрабілі ўсё неабходнае, каб стварыць добрыя ўмовы для працы і адпачынку артыстам, якія прыехалі ў сталіцу Беларусі.

У падтрымку майго калегі Георгія Агдгамелашвілі скажу, што сам ганаруся гледачамі, якія прымусілі яго адчуваць сябе ў нас, «як дома». Тут важны ўзаемны кантакт паміж арэнай і амфітэатрам. Мабыць, сапраўды рэжысуры ўдалося знітаваць асобныя нумары ў адзінае відовішча. Таму я хачу ад імя мінчан падзякаваць нашым гасцям-артыстам за іх сапраўды высокае майстэрства.

«СЁННЯ І ШТОДЗЁННА», — такая традыцыйная форма абвяшчэння цыркавых прадстаўленняў. Ёсць гэты радок і ў вераснёўскай афішы, якая запрашае мінчан на свята сілы і характва, спрыту і вынаходлівасці. Калі вы скіруеце крокі да азоранага яркімі агнямі будынка на рагу Ленінскага праспекта і вуліцы імя Янкі Купалы, — вас абавязкова сустрэнуць пытаннем: «Ці няма лішняга білета?» А гэта здараецца тады, калі артыстычны калектыў здабывае поспех.









# МОВАЮ ПЛОШЧАЎ, ВУЛІЦ, ПОМНІКАЎ



Помнік у гонар Сардарабадскай бітвы ў Актэмберане.

**М**АЎКЛІВАЯ, але вельмі красамоўная мова архітэктуры! Яна здольная так многа расказаць пра народ! Мы пераканаліся ў гэтым яшчэ раз у Мінскім Доме архітэктара, дзе Арменія — старажытная і маладая — гаворыць з намі моваю плошчаў і вуліц, палацаў і помнікаў: тут разгорнута справаздачная выстаўка творчасці дойлідаў сонечнай рэспублікі, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР. У экспазіцыю ўваходзіць звыш сямідзесяці планшэтаў. Усе здымкі — з натуры. Тут — ніводнай перспектывы, ніводнага неажыццёўленага праекта... Нашыя госці быццам бы кажуць: мы не паказваем таго, пра што яшчэ творча спрачаемся, мы трымаем справаздачу пра тое, што ўжо ёсць, расказваем пра шлях, які прайшлі!..

Знаёмячыся з выстаўкай, на цудоўна зробленых планшэтах бачыш пламіравальныя структуры, грамадскія будынкі, жытло, малыя архітэктурныя формы, можна скласці ўяўленне пра сінтэз мастацтваў.

Зробленыя з верталёта здымкі на планшэтах даюць выразнае ўяўленне пра тое, як армянскія дойліды вырашаюць пытанні планіроўкі сваёй сталіцы.

Ерэван свабодна раскінуўся ў гарах і нагадвае вялізны амфітэатр. Восем раёнаў Ерэвана, якія канцэнтруюцца вакол дзевятага, цэнтральнага, складаюць «Вялікі Ерэван». У сістэме вялікага горада, аднак, раёны не трацяць сваёй індывідуальнасці. Кожны з іх — быццам маленькі ўтульны гарадок у вялікім сталічным кангламераце.

Ерэванскія праспекты і вуліцы мала чым нагадваюць мінскія. Але ў дойлідаў дзвюх сталіц шмат агульных задач. Як і мінскія архітэктары, ерэванскія працуюць цяпер над тым, каб стварыць агульнагарадскі цэнтр, які адпавядаў бы сучасным патрабаванням, маштабам забудовы, развіццю транспарта. Як і мінскія калегі, яны імкнуцца найбольш поўна захаваць і скарыстаць навакольны ландшафт, зеляніну. Гэта няпроста зрабіць — пад кожнае дрэўца ў Ерэване ложа ў камяністым грунце даводзіцца рыхтаваць выбухам!..

На ўсесаюзных аглядах архітэктуры нязменна адзначаюцца дасягненні армянскіх дойлідаў у праектаванні грамадскіх будынкаў. Традыцыі, закладзеныя ў дваццатыя гады вядомым армянскім архітэктарам А. Таманянам, плённа развіваюцца. Вось на планшэтах тры падобныя па прызначэнні грамадскія будынкі — тэатр оперы і балета, філармонія, драматычны тэатр. Першы пабудаваны ў дваццатыя гады, другі — перад Вялікай Айчыннай вайной, трэці —зусім нядаўна. Гэтыя будынкі — вехі трох этапаў развіцця армянскай савецкай архітэктуры. Доўга разглядаеш здымкі з драматычным тэатрам імя Сундукяна. Армянскія дойліды дасягнулі вялікай сілы выразнасці параўнальна сціплымі сродкамі. Вобраз будынка яны вырашаюць на кантрастах шкла і каменя. Ашклёны галоўны фасад, аздоблены каменным зводам у нацыянальным стылі, як бы спалучае ў адно цэлае знешнюю і ўнутраную прасторы. Цераз празрыстую сцяну зеляніна як бы ўваходзіць у інтэр'ер, а з парку добра чытаецца трыццаціметровае пано, створанае Марціросам Сар'янам.

Вось яшчэ адзін унікальны твор армянскіх дойлідаў — стадыён «Раздан», пабудаваны ў цясніне. Стадыён здаецца невялікім, а ўмяшчае ён 70 тысяч гледачоў. Дойліды надалі збудаванню адмысловы дынамізм, выразнасць.

Нашы сябры паспяхова вядуць пошукі ў сінтэзе мастацтваў. Як і ў нас, вялікія ансамблі выйшлі ў іх за гарадскую рысу. Але як смела ўключаюць дойліды ў забудову плошчаў і вуліц малыя манументальныя формы, як тактоўна ставяць свае помнікі сярод зеляніны, ля вады!..

Нацыянальная своеасаблівасць у работах армянскіх майстроў — не толькі ў знешніх атрыбутах. Яна—і ў функцыянальных, тэхнічных рашэннях, і ў мастацкіх асаблівасцях будынкаў і ансамбляў. Гэта адчуваеш, калі глядзіш на Дом шахматыста, Летні тэатр і многія іншыя творы армянскіх дойлідаў.

Прыгадваючы Арменію, перш за ўсё ўяўляеш цёплыя тоны яе туфаў, люстраны бляск гранітаў. Як добра, што сонечная рэспубліка падзялілася з намі сваімі скарбамі. Не можаш не прыгадаць Арменію, любуючыся ў Мінску падпорнаю сценкаю з туфу ля павільёна Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі БССР. Камяні Арменіі ляглі ля падмурку помнікаў нашым песнярам Купалу і Коласу.

Па запрашэнні Саюза архітэктараў БССР у Мінск прыязджаюць прадстаўнікі армянскіх дойлідаў. Нашы архітэктары ў сваю чаргу наведаюць Арменію — неўзабаве яны пакажуць свае работы ў Ерэване.

Мы рады, што мацуюцца нашы творчыя сувязі. Нам ёсць што паказаць адзін аднаму, ёсць чаму адзін у аднаго павучыцца.

**М. МАРЦІНКОЎСКІ,**
аргсакратар праўлення Саюза архітэктараў БССР.

# КІХНУ

Юхан Смуул, які пісаў пра Йена, любіў Кіхну. Раіў сябрам пабываць тут, а сам выходзіў з рыбакамі Кіхну ў мора, гасцяваў у Тэадора Янавіча Саара — паважанага на востраве старога настаўніка і вядомага краязнаўцы...

...У вячэрнім змроку фарбы неба пабляклі і расталі. Сцерлася мяжа неба і мора. Цяпер бездань нябёсаў пачыналася быццам бы адразу ад зарослых водарасцямі валуноў на прыбярэжнай кромцы пяску. А над Кіхну бясшумна кружыліся чайкі...

...У кабінеце старшыні калгаса Аўгуста Вільямавіча Карына на стале, як сімвалы асноўнай дзейнасці гаспадаркі, стаяць пірамідаю кансервавыя бляшанкі з этыкеткамі. Бляшанкі розныя: на 350 грамаў, на 800 і ажно на 3 кілаграмы!.. Для салакі, кількі.

Рыхтуюць, напаўняюць гэтыя бляшанкі тут жа, на Кіхну, у сваім цэху. На этыкетках — адрас вытворчасці: «Пярнускі раён, калгас «Савецкі партызан».

Аўгуст Вільямавіч і яго намеснік Ян Вальм (ён лепш разумее рускую мову) тлумачаць, што цяпер зацішша — пуціна скончылася. Але ў мора, канечне, выходзяць штодзень...

Паводле гадавога плана яны павінны вылоўліваць 32 тысячы цэнтнераў рыбы. Палова ўсяго ўлова прыпадае на салаку, палова — на кільку, якую вылоўліваюць не ў заліве, а ў адкрытым моры ў Балтыцы. Апрача таго, вакол вострава ловяць вугра, шчупака, акуня.

З выкананнем плана справы пакуль што някепскія: 22 тысячы цэнтнераў рыбы ўжо на іх ліку. Значыцца, на асеннюю пуціну засталося якіх-небудзь дзесяць тысяч цэнтнераў.

Разгар асенняй пуціны супадае сёлета з 50-годдзем СССР. Да гадавіны яны рыхтуюцца актыўна. Рамантуюць судны, сеткі. Мяркуюць, што гадавы план перавыканаюць.

— Вось такія бляшанкі, — кажа Аўгуст Вільямавіч, — мы рассылаем па ўсёй савецкай краіне... І ведаеце, вельмі прыемна пазнаваць свае этыкеткі ў гастраномах Талліна, Ленінграда, Ноўгарада, Мінска... Так, так, трапляе наша прадукцыя і да вас, у Беларусь! Дарэчы, з асенняй пуціны якраз плануем везці ў Літву і Беларусь рыбу проста да свята!..

І тут высвятляецца красамоўная дэталь: непасрэдная сувязь паміж Кіхну і Мінскам наладжана даўно. З Пярну, дзе, паводле слоў старшыні, базіруецца іх «калёсная флатылія», рыбакі Кіхну не аднойчы сваім транспартам дастаўлялі ў сталіцу Беларусі свежавэнджаную салаку...

— Калі яшчэ не каштавалі нашай салакі дома — пачастуем на свяце. Спецыяльна запусцілі ў работу цэх, вэндзім!.. Лепшай салакі за нашу няма на ўсім эстонскім узбярэжжы! — зусім сур'ёзна кажа Вальм. — А чаму? А таму, што людзі ў нас не абы якія. Перадавікі!.. Капітан Оад, так, той самы, з якім вы плылі на Кіхну, — Герой Сацыялістычнай Працы. Да нядаўняга часу Оад не прапускаў ні аднай пуціны — хадзіў у Балтыку, лавіў салаку. Каманда яго перавыконвала планы і абавязацельствы. Ён толькі часова заняты цяпер на перавозцы грузаў. У асеннюю пуціну не ўтрымаецца — выйдзе ў мора!.. А ёсць яшчэ, напрыклад, рыбак Іван Палу. Узнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ягоны брат — Цімафей Палу —заслужаны рыбак Эстоніі. А маладому Хейна Цялю якраз заўтра на свяце будзе прысвоена званне выдатнага рыбака Эстоніі!.. Ды і ўсе нашы рыбакі — добрасумленныя працаўнікі, самаадданыя. Такая ў нас на Кіхну традыцыя!..

Яшчэ не зайшло сонца, а на ўзлеску сабралося насельніцтва вострава. Тут, на імправізаванай сцэне самадзейнасць Кіхну давала канцэрт. Спявалі прыгожа апранутыя ў нацыянальныя касцюмы мясцовыя школьнікі, настаўнікі і іншыя аматары спеваў. На фартэпіяна акампаніравалі нядаўнія выпускнікі Талінскай «мараходкі»...

Старыя рыбакі слухалі, дымілі цыгарэтамі. А побач, у Доме культуры збіралася моладзь на вечар танцаў.

... Да «Рок Сіці» я вяртаўся марскім берагам. Ішоў праз порт, дзе ўздоўж пірса з густога туману адзін за адным паўставалі перада мной малыя тралы, лодкі, баркасы і, нарэшце, прыстыглы да аббітага дошкамі прычалу нястомны працаўнік «Кайяк».

... На Кіхну мы плылі каля дзвюх гадзін, а самалёт пераносіць адсюль у Пярну за пятнаццаць хвілін. Толькі мільганула між сосен белая «палуба» «Рок Сіці» — і ўнізе ўжо адкрытае мора. Зялёны Кіхну, яго паўкруглая гавань знікаюць з вачэй. Бывай, Кіхну! Бывай, востраў нястомных працаўнікоў мора!..

**Л. ПРАКОПЧЫК.**

Кіхну—Мінск.



На востраве Кіхну.

Фота Р. ОРАСА.

# БелСЭ, том V

**У ВЕСТЫБЮЛІ галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі вісіць «маланка». Мастак старанна напісаў: «Віншуем калектыў з выхадам у свет пятага тома энцыклапедыі!» Як добрыя бацькі радуюцца нараджэнню дзіцяці, так і для беларускіх энцыклапедыстаў з'яўленне новага тома ў год залатога юбілею нашай краіны — сапраўднае свята.**

**На стале намесніка галоўнага рэдактара БелСЭ І. Д. Казекі ляжыць добра знаёмая падпісчыкам чырвоная кніга з залатым цісненнем: сігнальны экземпляр V тома. Пройдзе яшчэ некалькі тыдняў і падпісчыкі атрымаюць чарговую, пятую кнігу шматтомнага беларускага энцыклапедычнага выдання.**

**Пяты том адкрываецца словам «зуйкі» — назва птушак, два віды якіх водзяцца ў Беларусі, і канчаецца словам «Кішы» — назва вёскі ў Глыбоцкім раёне, цэнтр калгаса «Беларусь». Том багата ілюстраваны. Ёсць у ім каляровыя і чорна-белыя ўклейкі, шмат розных картаў, табліц, малюнкаў і фотаздымкаў.**

**Пра галоўнае ў пятым томе — наша гаворка з Іванам Дарафеевічам Казекам.**

— Мы вельмі рады, — расказвае ён, — што чарговы, пяты том энцыклапедыі надзвычай сугучны вялікай хвалюючай падзеі, якою жыве сёння савецкі народ, 50-годдзю ўтварэння СССР. У гэтым сэнсе новая кніга БелСЭ — згустак важных палітычных, навуковых і публіцыстычных матэрыялаў. Цэнтральнае месца ў ім займае група артыкулаў, у назвах якіх — дарагія ўсім нам словы — камунізм, камуністычны, і матэрыялы, што асвятляюць дружбу паміж народамі нашай неабсяжнай Радзімы. Кожны артыкул—значная даследчая работа, звязаная са стараннай праверкай і ўдакладненнем фактаў, падзей, дат і імёнаў. Нашы аўтары — вядомыя вучоныя, дзеячы культуры рэспублікі.

Чытач пазнаёміцца з грунтоўным артыкулам—«Камунізм», светлы будынак якога сёння ўзводзіць увесь савецкі народ. Хочацца назваць і такія артыкулы, як Камуністычнае выхаванне, Камуністычная праца, Камуністычныя суботнікі і да т. п.

Сапраўдныя манаграфічныя даследаванні ўяўляюць сабою артыкулы Камуністычная партыя Савецкага Саюза, Камуністычная партыя Беларусі, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, Камуністычная партыя Заходняй Украіны, Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі, Камуністычны Інтэрнацыянал (3-ці Інтэрнацыянал), Камуністычны інтэрнацыянал моладзі (КІМ), Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, Камуністычныя універсітэты.

Аб шырокім размаху камуністычнага руху ў свеце, мужнай і смелай барацьбе камуністаў за вызваленне сваіх народаў ад улады манапалістычнага капіталу, аб росце іх аўтарытэту сярод шырокіх працоўных мас расказваюць артыкулы пра камуністычныя партыі Аргенціны, Вялікабрытаніі, Германіі (Заходняй), Злучаных Штатаў Амерыкі, Індыі, Карэі, Японіі. Цікавыя матэрыялы ў артыкулах пра камуністычныя партыі Кубы, Чэхаславакіі, Чылі, Фінляндыі.

Хацелася б яшчэ раз звярнуць увагу нашых шматлікіх чытачоў, асабліва прапагандыстаў, агітатараў, студэнтаў, творчых работнікаў рэспублікі, на артыкулы Камуністычная партыя Савецкага Саюза і Камуністычная партыя Беларусі. У іх у сціслай форме падаюцца асноўныя этапы гісторыі нашай роднай партыі ад першых сацыял-дэмакратычных гурткоў і груп і да сённяшніх дзён. Надзвычай багаты фактычным матэрыялам раздзел артыкула, які расказвае пра ролю Кампартыі Беларусі ў барацьбе за будаўніцтва камуністычнага грамадства. Гэта —сённяшнія гераічныя справы нашага народа, які паспяхова выконвае планы дзевятай пяцігодкі.

Нельга без пачуцця гордасці за нашу Радзіму, партыю і народ чытаць старонкі, прысвечаныя XXIV з'езду КПСС і XXVII з'езду КПБ. Міжволі прыгадваюцца вядомыя словы Ул. Маякоўскага: «Мы гаворым — Ленін, разумеем — партыя, мы гаворым — партыя, разумеем—Ленін».

Немагчыма абмінуць і такі артыкул, як «Искра» — пра першую агульнарускую палітычную нелегальную марксісцкую газету, ля калыскі якой стаяў У. І. Ленін. З маленькай іскры разгарэлася полымя Вялікага Кастрычніка, нарадзілася першая ў свеце дзяржава рабочых і сялян — Краіна Саветаў. Пра вялікія поспехі нашай партыі і народа па пераўтварэнні СССР у магутную індустрыяльную краіну свету расказваецца ў артыкуле Індустрыялізацыя.

**— На пачатку вы гаварылі, што ў пятым томе змешчана нямала матэрыялаў, якія адлюстроўваюць непарушны саюз братніх рэспублік СССР. Раскажыце пра гэта больш падрабязна.**

— Перш за ўсё назаву артыкулы Канстытуцыя СССР і Канстытуцыя БССР, якія расказваюць пра самую дэмакратычную сістэму дзяржаўнага ладу нашай краіны, асноўныя правы і абавязкі яе грамадзян. Як вядома, дружба паміж народамі Савецкага Саюза знайшла заканадаўчае адлюстраванне ў нашай Канстытуцыі. Аб удзеле народа ў кіраўніцтве дзяржавай сведчаць таксама артыкулы пра камісіі Вярхоўнага Савета СССР, БССР і мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных.

У пятым томе энцыклапедыі, працягвае Іван Дарафеевіч, змешчаны матэрыялы пра поспехі братніх народаў на гаспадарчым фронце, на ніве культуры, навукі, літаратуры і мастацтва ў Казахстане і Кіргізскай ССР, Калмыцкай і Кара-Калпакскай АССР, у Кіеўскай і Івана-Франкоўскай абласцях УССР, Калінінскай, Калужскай, Калінінградскай абласцях Расійскай Федэрацыі і інш.

Нагадаю артыкул пра Казахскую ССР. Прадстаўнікі амаль сарака нацыянальнасцей Савецкага Саюза, у тым ліку і беларусы, удзельнічалі ў асваенні цалінных і аблогных зямель Казахстана. Па пуцёўках камсамола Беларусі ў 1954 і 1955 гг. у братнюю рэспубліку паехала звыш 33 тысяч юнакоў і дзяўчат. 24 саўгасы Кустанайскай, Какчэтаўскай і Усходне-Казахстанскай абласцей укамплектаваны маладымі кадрамі з Беларусі. Штогод у Казахстан на «працоўны семестр» прыязджаюць студэнты вышэйшых навучальных устаноў нашай рэспублікі. На палях Казахстана працуюць беларускія трактары, магутныя самазвалы, камбайны і іншая тэхніка. Пра ўсё гэта можна даведацца з артыкула Казахская ССР.

*17 ВЕРАСНЯ — ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ЛЕСУ*

# БЕЛАРУСЬ-СТАРОНКА ЛЯСНАЯ



Участковы тэхнік-лесавод М. Н. Шкробат.

Фота М. МІХАЙЛАВАЙ.

ЗА ПАСЛЯВАЕННЫЯ гады на землях Беларусі пасаджана 1 мільён 251 тысяча гектараў лесу.

Хто ж аб гэтым клапаціўся, хто даглядае наша зялёнае багацце?

Два дзесяцігоддзі працуе леснікам Азёрскага лясніцтва Гродзенскага лягаса Іван Аляксандравіч Кашчэй. Ідзеш дарожкай між кварталамі — сэрца радуюць пышныя маладнякі сасны, бярозы, пасаджаныя рукамі лесніка і яго памочнікаў—рабочых. Іван Аляксандравіч спаборнічае з Міхаілам Рыгоравічам Мялешкам, леснікам гэтага ж лясніцтва. Кожнаму хочацца быць наперадзе, але гэта не перашкаджае дапамагаць адзін аднаму.

Доўга лічылася, што працаваць у лесе могуць толькі мужчыны. Але цяпер і жанчыны вырошчваюць лес.

Вось Буйновіцкае лясніцтва на Палессі. Тут участковым тэхнікам-лесаводам працуе Марыя Нічыпараўна Шкробат. На яе ўчастку — дзесяткі гектараў маладога лесу. Марыя Шкробат руплівa даглядае яго і за добрыя вынікі ў рабоце ўзнагароджана медалем «За працоўную доблесць».

— Лес — гэта не толькі драўніна, — гаворыць яна. — Ён дорыць нам грыбы, ягады, арэхі, лекавыя травы. Іх нарыхтоўка — частка вытворчых планаў лясгасаў. А з чым параўнаць багацце паляўнічай гаспадаркі — пушніну, дзічыну? Гэта ж таксама лясныя дары.

Быў час, калі лічылася падзеяй — убачыць лася ці бабра. Небагата іх пакінуў нам стары, дарэвалюцыйны час! Палялі па-варварску, не думаючы пра заўтрашні дзень. Так было. Савецкая ўлада з першых дзён свайго існавання, па дэкрэту У. І. Леніна, перадала паляўнічую гаспадарку, як і лясныя багацці, у клапатлівыя рукі дзяржавы. Дзяржаўная лясная ахова беражэ бабра, дзіка, касулю, цецерука гэтак жа пільна, як і сам лес. І калі лясныя ўрочышчы Беларусі сёння багатыя на ласёў (іх звыш 20 тысяч!), дзікоў, баброў, зайцаў ды на баравую дзічыну, то за гэта мы павінны сказаць дзякуй перш за ўсё нястомным вартавым — леснікам. Нямала дапамагае і Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

Лясная ахова — гэта армія амаль у дзесяць тысяч чалавек. Зразумела, што на змену старэйшым павінна прыходзіць моладзь. Вельмі добрая форма пачатковай падрыхтоўкі кадраў, якая, дарэчы, нарадзілася ў нашай рэспубліцы. Вучні старэйшых класаў сярэдніх школ, паступіўшы ў школьнае лясніцтва — яно працуе пад кіраўніцтвам вопытных лесаводаў — вывучаюць лясную справу. Тут і выяўляецца прыхільнасць юнака і дзяўчыны да лесаводства...

Свой дзесяцігадовы юбілей адзначыла адно з першых у краіне школьных лясніцтваў — Каравацкае Васілевіцкага лясгаса. Лепшы актывіст лясніцтва Мікола Ус удзельнічаў ва Усесаюзным злёце юных лесаводаў у Маскве. Асобныя выпускнікі Каравацкай сярэдняй школы — былыя члены школьнага лясніцтва — закончылі спецыяльныя тэхнікумы, інстытуты, працуюць у лясной гаспадарцы Беларусі. А Іван Ярэц, набыўшы спецыяльнасць, вярнуўся ў родную вёску і працуе памочнікам ляснічага.

Нядаўна мне давялося наведацца ў Бешанковіцкі лясгас на Віцебшчыне. Гэта цікавая гаспадарка, яна апраўдвае назву вытворча-паказальнай. Яе кантора пераведзена ў Бешанковічы год сем таму, але якая ўтульная, прыгожая гэта сядзіба! Будынак канторы ўладкаваўся паміж соснаў так суладна, што, здаецца, муляры не парушылі тут ніводнай хваінкі. Дарожкі абсаджаны акацыяй, клёнамі. Парадзелы за гады вайны хвойнік «адрамантаваны», ператвораны ў лесапарк: на пралысінах пасаджаны яліны, таполі, бярозы. Вуліца новага пасёлка акаймавана зелянінай...

Пабывайце ў лясгасе. Вас сустрэне дырэктар Мікалай Апанасавіч Лабкоў, чалавек жвавы і дзейны.

Кажуць, што ў Лабкова свой стыль работы. З гэтым варта пагадзіцца. Не дзіва, што ў «бешанковіцкую глухамань» едуць здалёк. «З Лабковым працаваць цяжка, затое цікава», — пачуў я ў лясгасе.

У дзень свята хочацца пажадаць нястомным працаўнікам лесу, каб сярод іх больш было такіх энтузіястаў, якія б мелі свой стыль, свой погляд на рэчы, умелі б працаваць і заахвоціць да працы іншых.

**Васіль МІНАЎ.**



Здараецца, што ласі выходзяць пакаштаваць сакавітай канюшыны.

Фота Ф. РЭУЗІНА.



Леснікі І. А. Кашчэй і М. Р. Мялешка.

Фота А. ПЕРАХОДА.

Даўнюю традыцыю маюць беларуска-казахскія літаратурныя сувязі. Яшчэ да вайны на казахскую мову перакладаліся вершы Я. Купалы і Я. Коласа. Пасля вайны перакладзены аповесць «Дрыгва», раман І. Шамякіна «Глыбокая плынь» і многія іншыя кнігі беларускіх пісьменнікаў. У перыядычным друку апублікаваны пераклады твораў П. Броўкі, Я. Брыля, Я. Коласа, У. Корбана, А. Куляшова, Я. Купалы, М. Танка, І. Шамякіна і інш.

На беларускай мове выйшлі «Песні і паэмы» Джамбула, «Выбранае» Абая Кунанбаева. У часопісах і газетах надрукаваны пераклады твораў С. Адамбекава, Ю. Алтайбаева, Ж. Амірбекава, М. Аўэзава і іншых пісьменнікаў Казахстана.

Матэрыялы пра шырокія братнія сувязі беларускага народа з усімі савецкімі народамі адлюстроўваюцца ў артыкулах пра саюзныя і аўтаномныя рэспублікі і ў іншых артыкулах энцыклапедыі. Дружба народаў СССР год ад году мацнее, набывае новыя формы і дае вялікі плён. У гэтым томе, напрыклад, ёсць артыкул пра Міхаіла Ісакоўскага. Акрамя агульных звестак пра творчасць выдатнага паэта ў артыкуле падкрэсліваецца, што ён перакладаў на мову вялікага рускага народа вершы і паэмы А. Александровіча, М. Багдановіча, П. Броўкі, П. Глебкі, Я. Коласа, Я. Купалы, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Русака, беларускія народныя песні.

Украінскі савецкі пісьменнік Васіль Казачэнка пераклаў на ўкраінскую мову раманы І. Шамякіна «Глыбокая плынь», Я. Брыля «Птушкі і гнёзды», п'есы А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце», «Зацюканы апостал», апавяданні К. Чорнага, І. Мележа, П. Пестрака.

Вядомая ўзбекская савецкая паэтэса Зульфія дала магчымасць сваім суайчыннікам на роднай мове чытаць творы Я. Коласа, Э. Агняцвет, Е. Лось. На беларускую мову перакладалі творы Зульфіі Р. Барадулін, А. Вярцінскі, Э. Агняцвет, А. Лойка, Е. Лось, Ю. Свірка.

Шырока вядома ў краіне творчасць украінскага савецкага драматурга Героя Сацыялістычнай Працы А. Карнейчука. П'есы яго ставіліся і перакладаліся на беларускую мову. На сцэне акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы з поспехам ішлі спектаклі па яго п'есах: «Платон Крэчат», «У стэпах Украіны», «Фронт», «Калінавы гай», «Памяць сэрца» і інш. Ставіў яго п'есы і тэатр імя Я. Коласа — «Гібель эскадры», «Фронт», «Калінавы гай», «Платон Крэчат». Спектаклі па п'есах Ус. Іванава «Браняпоезд 14-69» і «Блакада» ставіліся на сцэне купалаўскага тэатра.

Балеты азербайджанскага кампазітара Кара Караева «Сем красунь» і «Сцежкаю грома» былі пастаўлены ў Беларускім тэатры оперы і балета.

Гэта толькі некаторыя прыклады плённых братэрскіх сувязей літаратур і мастацтва нашых рэспублік, узятыя з матэрыялаў V тома БелСЭ. А іх жа значна больш.

Нельга не сказаць пра дружбу, змацаваную крывёю ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ратны подзвіг народаў СССР залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю савецкай дзяржавы. Пра гэтую гераічную старонку нашага летапісу даюць яркае ўяўленне матэрыялы V тома энцыклапедыі. Удзельнікі баёў на Беларусі Героі Савецкага Саюза Аляксандр Іваноў, Іскаліеў Сундуткалі, Асман Касаеў, Каліеў Анвар і многія іншыя — прадстаўнікі розных народаў СССР. Не шкадуючы свайго жыцця змагаліся яны з ворагам, вызваляючы Беларусь з фашысцкай няволі. У сваю чаргу і беларусы ўнеслі вялікі ўклад ва ўсенародную барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Герой Савецкага Саюза разведчык Сцяпан Канашэнка вызначыўся пры вызваленні горада Канева, непадалёку ад якога на высокім беразе Дняпра пахаваны вялікі ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка. С. Канашэнка загінуў у час пераправы цераз Дняпро. Беларус Герой Савецкага Саюза Сяргей Каданчык загінуў у баі, вызваляючы Новарасійск. Падобных прыкладаў можна прывесці нямала.

Таму такое вялікае значэнне набывае сёння інтэрнацыянальнае выхаванне моладзі. Пра гэта гаворка ў спецыяльным артыкуле V тома.

**— Што яшчэ ёсць адметнага ў V томе энцыклапедыі?**

Нашы чытачы добра памятаюць артыкул «Акупацыйны рэжым», змешчаны ў першым томе БелСЭ. Своеасаблівы працяг яго — артыкул «Карныя аперацыі», які можна прачытаць у пятым томе. Карныя аперацыі былі неад'емнай часткай нямецка-фашысцкага акупацыйнага рэжыму. Да вясны 1944 г. на Беларусі карныя аперацыі супраць партызанаў і мірнага насельніцтва вялі 9 дывізій, больш за 100 ахоўных батальёнаў і шмат спецыяльных падраздзяленняў. За гады часовай акупацыі было праведзена не менш як 100 карных аперацый пад рознымі кодавымі назвамі: «Арол», «Пантэра», «Мюнхен», «Маланка» і інш. Былі спалены тысячы вёсак, многія раёны ператвораны ў «зоны пустыні». Да артыкула дадаецца табліца, з якой відаць час, калі праводзіліся карныя аперацыі, іх кодавыя назвы і месца, дзе яны адбываліся.

**— А для чытачоў, што цікавяцца беларускім мастацтвам і літаратурай, якія прапануюцца матэрыялы?**

— Матэрыялаў шмат і кожны пасвойму цікавы і патрэбны. Чытачы знойдуць артыкулы пра пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў В. Івашына, В. Каваля, Д. Кавалёва, К. Каганца, П. Кавалёва, М. Калачынскага, У. Калесніка, У. Карпава, У. Караткевіча, К. Кірэенку, пра народнага артыста СССР А. Ільінскага, народных артыстаў рэспублікі М. Зюванава, А. Кагадзеева, Т. Каламійцаву, А. Карзянкову, Я. Карнавухава, Р. Качаткова, Р. Кашэльнікаву, А. Кістава, Я. Кімберга і інш. Артыкул пра скульптара і педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Міхаіла Аркадзьевіча Керзіна нагадае чытачам аб яго вялікім укладзе ў беларускае мастацтва. Сярод вучняў М. Керзіна народныя мастакі БССР З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, скульптары А. Арлоў, А. Жораў і іншыя.

У пятым томе чытачы знойдуць матэрыялы і пра дзеячоў беларускага выяўленчага мастацтва і архітэктуры. Гэта артыкулы пра народнага архітэктара СССР У. Караля, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР К. Касмачова і інш.

Мне здаецца, што чытачам будзе карысна пазнаёміцца з артыкулам пра кінамастацтва. Ён расказвае пра вытокі і шлях, што прайшло беларускае кіно ад першага мастацкага фільма «Лясная быль» (рэжысёр Ю. Тарыч) да апошніх работ студыі «Беларусьфільм», пра майстроў беларускай кінематаграфіі — рэжысёраў, аператараў, сцэнарыстаў.

Пра беларускую камедыю, яе станаўленне і развіццё гаворыцца ў артыкуле «Камедыя».

Грунтоўны, на маю думку, артыкул «Казка», які знаёміць з выдатнымі народнымі казачнікамі Рэдкім і П. Гаспадаровым, з запісамі беларускіх народных казак П. Шэйна, Е. Раманава, М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага. Падкрэсліваецца, што па матывах народных казак Я. Колас, З. Бядуля, У. Дубоўка, А. Якімовіч, М. Танк і іншыя пісьменнікі напісалі нямала добрых казак, на якіх выхоўваецца не адно пакаленне дзяцей.

У пятым томе можна знайсці і яшчэ шэраг матэрыялаў — пра архітэктурныя помнікі Беларусі, пра інстытуты Акадэміі навук БССР, інстытуты гісторыі партыі пры ЦК КПБ і марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС. Хто цікавіцца дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам з задавальненнем прачытае артыкулы пра Івянецкую кераміку, беларускія карункі.

Чытачы знойдуць у гэтым томе артыкулы пра заснавальніка беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі Я. Карскага, беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, кіраўніка паўстання 1863-64 гг. на Беларусі і ў Літве Кастуся Каліноўскага.

**— Якія планы на бліжэйшы час?**

— Да канца года дадзім сваім падпісчыкам яшчэ шосты том энцыклапедыі. Зараз чытаюцца карэктуры. Адначасова рыхтуюцца матэрыялы для дзевятага тома БелСЭ.

**Гутарку запісала Я. ДАНСКАЯ.**

# НА КАНВЕЕРЫ — КНІГІ

Мінскі паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа. Першая палавіна рабочага дня. Грукаюць, уздрыгваюць на цэментавай падлозе друкарскія машыны. Аркуш за аркушам акуратна кладзецца ў стос. Адну з машын абслугоўвае брыгада камуністычнай працы Яўгена Бачылы. Да абедзеннага перапынку яна выпускае звыш шасці тысяч аўтарскіх аркушаў — намнога больш нормы.

Шмат гадоў працуе Яўген Мікалаевіч на Мінскім паліграфічным камбінаце.

Разам з Бачылам вось ужо амаль пятнаццаць гадоў працуюць Мікалай Зяan ькоў, Марыя Кучаравая, Фаіна Качан і Галіна Жукоўская. Брыгадай дружных называюць гэты калектыў у друкарскім цэху.

... Круглыя суткі стаіць глухі, манатонны гул у пераплётным цэху.

Ля адной з машын працуе брыгада камуністычнай працы Віктара Квяткоўскага. Гэты калектыў таксама носіць ганаровае званне — імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Усе восем чалавек працуюць дружна, штодня перавыконваюць вытворчыя заданні. Лепшых паказчыкаў дабіваюцца Соф'я Гракавіч, Валянціна Нікіціна, Ніна Акуліч.

Мы пабывалі на многіх участках прадпрыемства. І ўсюды людзі працавалі натхнёна, з агеньчыкам. Добрую славу ў калектыве заваявалі брыгады Пятра Карпіловіча і Міхаіла Піскуна з афсетнага цэха. Яны штодзённа выконваюць зменныя заданні на 125—130 працэнтаў.

Калектыў прадпрыемства паспяхова нясе працоўную вахту ў гонар 50-годдзя СССР. Сведчаннем таму — пераходны Чырвоны сцяг Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па справах выдавецтва, паліграфіі і кніжнага гандлю і ЦК прафсаюза работнікаў культуры за добрыя паказчыкі ў другім квартале.

Многія брыгады па-ўдарнаму працавалі над выкананнем ганаровага задання — выпускам падручнікаў. І трэба сказаць, справіліся з ім паспяхова і ў тэрмін. Сёлета выдадзена 76 падручнікаў агульным тыражом 11 мільёнаў экземпляраў. Імі будуць карыстацца таксама школьнікі Расійскай Федэрацыі, у тым ліку Крайняй Поўначы і Далёкага Усходу, Чукоткі і Камчаткі.

Шмат заказаў выконваецца на камбінаце ў гэтыя дні. Сярод іх — юбілейныя. У вытворчасці знаходзяцца кніга «За дружбу народаў», тры альбомы «Беларусі крокі сажнёвыя», плакат «Саюз непарушны». Да 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа выдаецца другі том яго «Выбраных твораў».

Як паведаміў нам сакратар парткома камбіната тав. Сакалоўскі, калектыў прадпрыемства змагаецца за атрыманне юбілейнага Ганаровага знака ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў БССР і Беларускага савета прафсаюзаў.

**Л. КІСЯЛЁЎ.**

*ГОСЦІ МІНСКА*

# ВЕНГЕРСКАЯ РАПСОДЫЯ

**ЦЯЖКА СУСТРЭЦЬ чалавека, які б не ведаў захаплльных мелодый венгерскага чардаша. Выдатныя апрацоўкі народнага танца зрабілі Ф. Ліст і П. Чайкоўскі, І. Брамс і Л. Дэлід, З. Кадай і Б. Бартак. А колькі паэтычнай прыўзнятасці ў цыганскіх мелодыях няўміручых аперэт І. Кальмана і Ф. Легара!..**

Канцэрт, які даў у Мінску Дзяржаўны ансамбль танца «Будапешт», яшчэ раз засведчыў высокую культуру венгерскіх артыстаў, вядомых на ўвесь свет, асабліва ў сваіх віхурных танцах. Ён паказаў багатую праграму, амаль усе нумары якой сустракаліся гледачамі гарачымі апладысментамі.

Танец займае значнае месца ў жыцці венгерскага народа. Трэба дадаць, што адразу ж пасля ўтварэння Венгерскай Народнай Рэспублікі ў гэтай краіне ўзнікае некалькі танцавальных калектываў. Так, ужо ў 1950 годзе быў створан Дзяржаўны фальклорны ансамбль пад кіраўніцтвам М. Рабаі, а крыху пазней — ансамбль народнай арміі, ансамбль «Дунай». І, нарэшце, нараджаецца яшчэ адзін — танцавальны. Імя яму — «Будапешт». Гэты малады калектыў ужо заваяваў шырокую папулярнасць. У ансамбль увайшлі ўчарашнія студэнты, рабочыя заводаў і фабрык, выпускнікі Дзяржаўнага балетнага інстытута. Яго рэпертуар складаўся ў працэсе ўпартай працы ўсіх удзельнікаў пад мастацкім кіраўніцтвам Антала Шымана і пастаноўшчыка — лаўрэата прэміі імя Ф. Ліста Лайоша Малнара. Балетмайстры старанна вывучалі сялянскія народныя танцы, гульні, звычаі, касцюмы. Вялікую дапамогу ансамблю аказалі вядомыя спецыялісты па народным танцы М. Рабаі, Э. Пешавар, Э. Лугашы.

...Ідзе выступленне ансамбля. На сцэне ў яркіх нацыянальных касцюмах дзяўчаты і хлопцы. У пяшчотных гуках скрыпкі ажывае павольная частка чардаша-лашан. І па меры таго як гучанне яе ўзмацняецца пад акампанемент другіх скрыпак і цымбал, перад гледачом узнікаюць цікавыя танцавальныя элементы.

У пастаноўках А. Шымана і Л. Малнара ярка адлюстраваліся чысціня і веліч венгерскага народнага мастацтва. Выдатныя веды народнага фальклору, пастаянная сувязь пастаноўшчыкаў з умельцамі з такіх этнаграфічных абласцей, як Эчэр, Буяк, Тард, Сентыштван, Сек, памаглі ім стварыць самабытны рэпертуар. І калі глядзіш, з якім запалам кружацца танцоры ў парных сялянскіх танцах, у танцы са шпорамі, у імправізаваных вясельных сцэнах, то ў поўную меру адчуваеш, што мова своеасаблівай венгерскай танцавальнай рапсодыі невычарпальна багатая.

Ці трэба гаварыць, што поспех ансамбля «Будапешт» — гэта і поспех аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам Залтана Якаба. У акампанеменце аркестра ясна адчуваецца жывая сувязь з распаўсюджанымі ў старыя часы вандроўнымі аркестрамі венгерскіх цыган.

Дзяржаўны ансамбль танца «Будапешт» паспяхова гастраляваў у Румыніі, ЧССР, Польшчы, Францыі, Бельгіі і іншых краінах. Усюды ён дорыць людзям свята прыгажосці і гармоніі.

**Я. УЛАДЗІМІРАЎ.**

**Калектыў Міністэрства культуры БССР смуткуе з прычыны заўчаснай смерці Героя Савецкага Саюза Е. С. БЯЛЯВІНА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




ГУМАРЭСКА

РАНЕЙ БЫВАЛА: што стары халасцяк, што старая дзеўка — усё адзіна. Не пажадаў ты ці не змог стварыць сям'ю, дык і жыві сабе на здароўе ў самоце!

Цяпер жа паміж старой дзеўкай і старым халасцяком ёсць істотная розніца. Мянушку «старая дзеўка» цэдзяць праз зубы: гіблая справа, баласт, што ўжо там гаварыць!

А вось словы «стары халасцяк» вымаўляюць з непрытоенай павагай і захапленнем. Хто ж не ведае, што дастаткова такому мужчыне паварушыць мезенным пальцам — і з усіх бакоў наляціць цэлы рой асоб, якія прагнуць крочыць побач з ім па жыццёвым шляху. Стары халасцяк, хай яму будзе хоць восемдзесят гадоў, яшчэ карыстаецца попытам, — заўсёды знойдуцца ахвотніцы карміць яго дыэтычным тварагом і падсоўваць гарачую грэлку пад халодныя пяты.

Не, сёння старыя халасцякі добра ведаюць сабе цану, і іх адзінокія сэрцы напоўнены законнай высакароднай гордасцю. Але, на жаль, ёсць і ў іх, у старых халасцякоў, балючае, слабое месца — так сказаць, адваротны бок медаля. У той час як старыя дзеўкі так і жывуць у бласлаўленным непарушным спакоі, старыя халасцякі пастаянна адчуваюць сябе ў небяспецы, нібы вакол іх гудзе рой восаў. Дзе б яны ні былі, чым бы ні займаліся — ім заўсёды здаецца, што іх вось-вось нехта схопіць і павалачэ ў ЗАГС. Манія праследавання не пакідае старога халасцяка ні на імгненне. А таму з нежанатым мужчынам, які пераскочыў ужо праз хрыстоў узрост — трыццаць тры! — жанчыне амаль немагчыма згаварыцца.

Ведала і я такога халасцяка. У адным доме нас пасадзілі побач і мне захацелася пагутарыць з гэтай з выгляду сур'ёзнай і разумнай істотай. Паколькі мой сусед і не думаў да мяне звяртацца (я падумала, што ён занадта сарамлівы), загаварыла я першая.

— Смачна прыгатавана, праўда? — паказала я на багаты стол.

— Сам умею гатаваць, — фыркнуў ён, адсоўваючыся разам з крэслам і ўтаропіўшы на мяне падазроны позірк.

— Можа, вам кавалачак торту з ружай?

— Ніякіх руж, — прыкрыў ён талерку далонню. — Паднясіце каму-небудзь іншаму.

— А кавы наліць?

— Заўсёды сам сябе абслугоўваю: сам мыю, сам развешваю бялізну, сам падмятаю, сам намыльваю сабе спіну, усё сам, сам!

— Вось цудоўна, — пахваліла я, ласуючыся ружай, ад якой адмовіўся сусед. — А на канцэрты, у тэатр таксама адзін ходзіце?

Ён замітусіўся ў сваім крэсле:

— М-м... Ні заўтра, ні паслязаўтра не маю часу, у нядзелю збіраюся цыраваць шкарпэткі, у панядзелак — прышываць меткі на насавых хустачках... Пазваніце праз месяц, хаця я і не ўпэўнены, што...

— Добра ўжо, — супакоіла я яго, пачынаючы ўсё разумець. Вырашыла больш ні пра што не пытацца, каб не нерваваць бедалагу, а абмежавацца толькі такімі-сякімі сцвярджэннямі.

— Цікавая кніжка Сэлінджэра. Там пра падлетка, які...

— Наўрад ці застанеце мяне дома, — развёў ён рукамі. — Перадайце кніжку Люткявічусу, а той перашле праз Самуоліса...

— Адзін ляснік знайшоў у лесе васемсот баравікоў!

— Я прытрымліваюся, — адказаў ён, — жалезнага правіла: хадзіць у лес толькі з мужчынамі.

— Які цудоўны хлопчык у гаспадароў!

— Вельмі шкада, — узмахнуў ён рукамі, — але і ў гэтым не магу вам дапамагчы. Звяртайцеся да іншых.

Гэта пераходзіла ўсякія межы.

— Ну, ведаеце! — паднялася я ў лютасці. — Я пайду.

— Э, не, — хітра ўхмыльнуўся ён, — не выйдзе: праводзіць не буду. Усяго добрага.

Пераклаў М. НАВІЦКІ.

*З УКРАІНСКАГА ГУМАРУ*

## НЕ НАВУЧЫЛІ

— Мама, ты не ведаеш, у якой настаўніцы вучылася цётка Валя?

— А што?

— Дык яна ж арыфметыкі не ведае. Замест пяці капеек рэшты дае толькі тры...

## У СТАЛОВАЙ

Наведвальнік:

— Што за дзіва, раней вы клалі ў боршч два шматкі мяса, а цяпер толькі адзін?

Афіцыянт:

— Прабачце, напэўна, повар забыў яго разрэзаць.

## ДУМАЕ

Старшыня аднаго калгаса выклікаў у кантору калгасніка і кажа:

— Што вы, Максіме, сабе думаеце? Ваша жонка не выходзіць на работу.

— Я ўжо цэлымі начамі не сплю і ўсё думаю, што б яшчэ зрабіць, каб ваша і мая жонкі разам выходзілі на работу, — адказаў калгаснік.

Пераклаў А. ЛЕШЧАНКА.

## МОДНІЦА Ў СЕЛЬСКІМ КЛУБЕ

У сяло аднекуль прыехала адна ультрамодніца. Штаны вось-вось трэснуць. Кофта — на пярэсты мяшок падобна, прычоска — ну якраз як конскі хвост. Губы — напэцканы. Пры ўсёй гэтай «красе» прыйшла яна да калгаснага клуба.

— Дазвольце, калі ласка, сфатаграфаваць, — падскочыў да яе фатограф і пстрыкнуў фотаапаратам.

— Мікола, для чаго табе патрэбна гэтае фота? — запытала адна з дзяўчат.

Мікола голасна, каб усе чулі, адказаў:

— Я хачу атрымаць першую прэмію ў конкурсе на лепшую карыкатуру.

Паведаміў О. Э. ВЯРНІДУБ, Малдавія.

А. КОЛБЕРГ

# ВЫРАТАВАЛЬНІК



У ЛАТАРЭІ можа выйграць кожны. І ў першую чаргу тое, што яму непатрэбна. Латарэя, якая адбылася ў дзве тысячы трохсотым годзе, не была выключэннем. І дзякуючы ёй сціплы грамадзянін па прозвішчы Швамстыціс стаў уладальнікам робата-слугі. Шчаслівуца гэта не прывяло ў захапленне. Дома ў яго даўным-даўно гэтакі ж робат абіраў бульбу, наводзіў глянец на туфлі і лавіў мышэй.

Два робаты пад адным дахам, напэўна, не паміраццa, не падзяліўшы паміж сабой бульбу, туфлі або мышэй. Швамстыціс не заплюшчваў вачэй на праўду і паслаў робата на сямейны агарод—ускопваць градкі з гуркамі. Але, праграміруючы яму працоўнае заданне, відаць, дапусціў памылку, таму што на наступны дзень атрымаў такую радыёграму:

«Яма выкапана. На глыбіні ў сто трыццаць метраў знойдзена капсула. Аб'ём — восем гекталітраў. Ускрыць?»

Увечары Швамстыціс пазычыў у суседа турбарэактыўны веласіпед і паімчаўся на ім на свой агарод.

Робат сядзеў на краі ямы, пакалыхваючы нагамі з нержавеючай сталі і чакаў указанняў. Побач з ім пабліскваў надпіс:

«Пісьмо чалавеку будучыні з 196... года».

Швамстыціс, зразумеўшы, што знаходка можа спатрэбіцца даследчыкам даўніны, здаў яе ў адпаведны інстытут.

У капсуле знайшлі падцяжкі рэдкай гістарычнай каштоўнасці, плакат «Курыльшчыкі—патэнцыяльныя хуліганы» (гэта неаспрэчна сведчыла, што ў тыя часы людзі яшчэ курылі), калекцыю каньячных этыкетак і шкляны кантэйнер з замарожаным літаратурным крытыкам.

Грамадзяніна з кантэйнера крыху падагрэлі і неадкладна даставілі на чарговы пісьменніцкі з'езд.

У зале з'езда засядалі аўтары са змрочнымі тварамі.

— Таварышы, як жа мне пісаць пра Марс і Венеру, калі чытачы ведаюць іх, як лемантар? — скардзіўся з трыбуны фантаст.

— Пісьменнікі мінулых стагоддзяў паступалі нетактоўна, адлюстроўваючы ўсё да найменшых драбніц...—далучыўся да яго аўтар гістарычных раманаў.

— А прыгодніцкія аповесці?— уздыхнулі пісьменнікі-дэтэктывы.—З таго часу, як ліквідавалі грошы, чытачы аб жуліках слухаць не хочуць!

— Фельетон—жанр, які зжыў сябе,—з засмучэннем канстатавалі сатырыкі.—П'яніц няма, камунальных кватэр няма... Час перакваліфікавацца. А што, калі стаць таксістамі-міжпланетнікамі?

Але ж крытык не для таго тарчаў у капсуле трыста трыццаць пяць гадоў, каб стаць таксістам.

На наступную раніцу рэдакцыя газеты атрымала артыкул, у якім ён назваў усіх астатніх крытыкаў балванамі, няздольнымі натхніць літаратараў. Зганьбаваныя палічылі сваім святым абавязкам абвергнуць паклёп. У рэдакцыю гужам пацягнуліся артыкулы ў адказ і прыкладзеныя да іх фотакопіі дыпломаў. Хутка тыражы газет павялічыліся ўдвая.

Палеміка абвастралася.

Для таго, каб падмацаваць свае аргументы асабліва моцнымі выказваннямі, самыя здагадлівыя палемісты звярнуліся за дапамогай да археолагаў, якія вывучалі надпісы на рэштках старажытных платоў...

Невядомы зламыснік плюнуў цераз акно ў рабочы кабінет крытыка А.

Нейкая сямейная пара пачала танцаваць чардаш пасля дванаццаці, каб перашкодзіць крытыку Б., які жыў за сцяной, напісаць карэспандэнцыю пра абмежаванасць свайго калегі Ц.

Беспарадкі, зразумела, не прайшлі міма пільных вачэй фельетаністаў. У найкарацейшыя тэрміны гумар і сатыра дасягнулі небывалага росквіту.

Працавітасць фельетаністаў, у сваю чаргу, натхніла нарысістаў.

Героі дэтэктыўных аповесцей нястомна праследавалі нягоднікаў, якія плявалі ў чужыя кватэры і атручвалі людзям жыццё распаўсюджваннем брашур са старажытнымі лаянкамі.

Фантасты перасягнулі самі сябе, пішучы раманы аб тым, што аднойчы наступіць дзень, калі мысліячыя істоты перастануць зневажаць адна адну.

Аўтары гістарычных раманаў, спакойна назіраючы гэту сумятню, на страх будучым пакаленням увекавечвалі яе ў эпічных творах.

Зразумела, не драмалі і крытыкі. Крытыкаваць ненапісанае так лёгка...

Пераклад з латышскай.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19. бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 01392